• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

24 лютага 1996 г. субота, №№ 53-54 (22856-22857)




# ЗВЯЗДА

## КАЛЕКТЫВУ ПРАДПРЫЕМСТВА ВОДАПРАВОДНА-КАНАЛІЗАЦЫЙНАЙ ГАСПАДАРКІ г. ГРОДНА

*Сардэчна віншую рабочых, інжынераў і спецыялістаў вашага прадпрыемства, аднаго з вядучых прадпрыемстваў водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, са знамянальнай падзеяй — стодваццацігоддзем Гродзенскага водаправода.*

*Нягледзячы на пэўныя эканамічныя цяжкасці, ваш калектыў надзейна забяспечвае работу складанай гаспадаркі горада Гродна.*

*Жадаю ўсім работнікам прадпрыемства-юбіляра, іх сем'ям моцнага здароўя, вялікага шчасця, далейшых працоўных поспехаў.*

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

## «...ПАКУЛЬ ПАЭТЫ БУДУЦЬ ПЕЦЬ — НЕ БЫЦЬ РАДЗІМЕ БЕЗЫМЕННАЙ»

Днямі ў сталічным Доме літаратара прайшла аўтарская вечарына народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Дзякуючы свабоднаму ўваходу на мерапрыемства зала была перапоўненая. Не было месца нават у праходах. Прыйшло вельмі шмат моладзі.

Сёлета Ніл Сымонавіч святкуе ажно два юбілеі: 65 гадоў з дня нараджэння і паўстагоддзя з моманту апублікавання першых вершаў. Таму вечарына, наколькі дазволіў час, стала своеасаблівай вандроўкай па ўсёй творчасці паэта — гучалі як вершы, напісаныя ў пачатку 50-х гадоў, так і самыя апошнія творы, якія яшчэ ніколі не з'яўляліся ў друку. Чалавек Адраджэння — так назваў Ніла Гілевіча ва ўступным слове Вячаслаў Рагойша, які адкрыў вечарыну. Сапраўды, усе без выключэння вершы паэта прасякнуты непахіснай верай у лепшую будучыню Беларусі як незалежнай краіны, верай у беларускі народ.

Ніл Сымонавіч адказаў таксама на шматлікія пытанні прысутных. Яны тычыліся не толькі паэзіі, але і закраналі палітычныя, сацыяльныя і нават філасофскія пытанні. Што зробіш — жыццё такое. «Паэт у Расіі — болей чым паэт». У Беларусі таксама «трэба прыняць свет такім, які ён ёсць» і пастарацца зрабіць яго хоць крыху лепшым», — зазначыў Ніл Гілевіч на заканчэнне.

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА.**

## ЗАРПЛАТА ЎЗРАСЛА Ў 2,7 РАЗА

Налічаная сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у Беларусі ў студзені гэтага года склала 1 мільён 17 тысяч 271 рубель. Аб гэтым паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу. Паводле яго даных, зарплата ў параўнанні са студзенем мінулага года ўзрасла ў 2,7 раза.

**БЕЛТА.**

## *А. ЛУКАШЭНКА:* «ТРЭБА НАПРАМУЮ ПРАЦАВАЦЬ З НАФТАЗДАБЫТЧЫКАМІ СІБІРЫ»

Рабочы візіт Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Наваполацк, звязаны з вырашэннем праблем забеспячэння жыццядзейнасці нафтавай галіны краіны, завяршыўся 22 лютага сустрэчай з калектывам вытворчага аб'яднання «Нафтан» і гараджанамі.

Першынец беларускай нафтаперапрацоўкі «Нафтан» больш чым за трыццаць гадоў сваёй работы сярод падобных прадпрыемстваў стаў буйнейшым у Еўропе. У яго будаўніцтве прымалі ўдзел рабочыя з многіх рэспублік былога Савецкага Саюза. Агульнымі намаганнямі аб'яднанне выйшла на магутнасць перапрацоўкі каля 24 мільёнаў тон нафты ў год.

Аднак з-за адсутнасці сыравіны, а таксама цяжкасцей пры збыце прадукцыі цяпер вытворчыя магутнасці «Нафтана» загружаны толькі на трэць. У сваю чаргу гэта негатыўна адбілася на становішчы спраў не толькі ў нафтахіміі, але і ў іншых галінах народнай гаспадаркі.

— Каб удыхнуць у іх жыццё, неабходна тэрмінова мяняць сітуацыю, — сказаў у час сустрэчы ў Палацы культуры «Нафтавік» з навапалачанамі Аляксандр Лукашэнка. — Аб тым, як жыць заўтра, трэба думаць ужо сёння.

Спецыялісты бачаць выхад у тым, каб значна павялічыць пастаўкі нафты ў краіну ўжо ў бліжэйшы час і арганізаваць вытворчасць яе глыбокай перапрацоўкі. Шляхі вырашэння гэтых праблем і былі разгледжаны на нарадзе, якую Прэзідэнт у той жа дзень правёў з удзелам кіраўнікоў канцэрнаў, міністэрстваў і ведамстваў, а таксама прадстаўнікоў расійскіх кампаній «ЛУКойл» і «ЮКОС».

— Трэба напрамую працаваць з тымі, хто здабывае нафту ў Сібіры, — падкрэсліў у час сустрэчы Аляксандр Лукашэнка, — а не праз ланцужок пасрэднікаў. Калі мы да гэтага не прыйдзем, то заўтра «Нафтан» не зможа перапрацаваць нават той колькасці сыравіны, якую перапрацоўвае сёння.

Выкладаючы канцэпцыю выканання пастаўленых задач, кіраўнік дзяржавы спыніўся на неабходнасці будаўніцтва ў аб'яднанні комплексу глыбокай перапрацоўкі нафты, які даў бы магчымасць павялічыць адбор светлых нафтапрадуктаў, што адпавядаюць патрабаванням сусветнага рынку, і зрабіць іх канкурэнтаздольнымі.

— Гэта магчыма, — падкрэсліў А. Лукашэнка, — пры стварэнні двух сумесных прадпрыемстваў, заснавальнікамі якіх з расійскага боку выступаюць нафтавыя кампаніі «ЛУКойл» і «ЮКОС», а з беларускага — канцэрн «Белнафтапрадукт» і «Нафтан».

Згодна з пагадненнем, сродкі ад будаўніцтва прадугледжваецца атрымаць за кошт прыбытку ад пастаўкі ў рэспубліку і перапрацоўкі расійскай нафты, а таксама замежных крэдытаў. Для рэалізацыі праекта ўрад Беларусі павінен забяспечыць шэраг падатковых ільгот, якія будуць накіроўвацца на фінансаванне будаўніцтва ў лік капіталаўкладанняў беларускага боку. Як адзначалася на сустрэчы, выкананне гэтай праграмы дасць магчымасць не толькі атрымаць пэўны прыбытак прадпрыемствам па перапрацоўцы нафты, але і забяспечыць рывок усёй эканомікі рэспублікі.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## СУСТРЭЧУ ПРЭЗІДЭНТА З НОВАПАЛАЧАНАМІ САРВАЦЬ НЕ ЎДАЛОСЯ

**Спешна перапыніць сустрэчу з прадстаўнікамі калектыву вытворчага аб'яднання «Нафтан» вымушаны быў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Яна праходзіла вечарам 22 лютага ў Наваполацку, у Палацы культуры «Нафтавік».**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА з Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ рэспублікі, дзяжурнаму вахцёру палаца пазваніў ананім і паведаміў, што ў зале закладзена выбуховае ўстройства, якое павінна спрацаваць у 18 гадзін 15 хвілін. Дарэчы, сустрэчу намячалася завяршыць да 18.00. Для таго, каб адказаць на шматлікія пытанні прысутных, кіраўніку дзяржавы патрабавалася яшчэ не менш за гадзіну. Ва ўзніклай сітуацыі Служба бяспекі Прэзідэнта прапанавала зрабіць перапынак на 20 хвілін для агляду залы піратэхнікамі.

Усё ж сустрэчу сарваць не ўдалося. Не дачакаўшыся заканчэння вымушанага перапынку, Аляксандр Лукашэнка прадоўжыў размову з навапалачанамі ў фае Палаца культуры. Затым на працягу гадзіны ён гутарыў з жыхарамі горада на вуліцы, дзе яго ўжо чакалі больш як паўтары тысячы чалавек. Яны не змаглі трапіць у залу, але слухалі трансляцыю выступлення Прэзідэнта.

Спецыялісты, агледзеўшы залу, ніякага выбуховага ўстройства не знайшлі. Цяпер адпаведныя службы ўстанаўліваюць асобу тэлефанавага тэрарыста.

**БЕЛТА.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ВЯЛІКІ БАНКАЎСКІ ПЕРАДЗЕЛ

**На мінулым тыдні грамадская ўвага была прыкавана да дзвюх жанчын, якія ў адзін момант сталі галоўнымі банкірамі краіны і сваім прызначэннем на гэтыя пасады значна абвастрылі адносіны і паміж галінамі ўлады, і ўнутры банкаўскай супольнасці краіны.**

Чарговы ўзлёт кар'еры Тамары Віннікавай многія лічаць зусім лагічным і заканамерным. Прызначэнне яе на пасаду старшыні Нацыянальнага банка ў абход Вярхоўнага Савета, з парушэннем закона выклікала бурную рэакцыю дэпутатаў, але ў рэальнасці наўрад ці якім-небудзь чынам у бліжэйшы час паўплывае на новую фінансава-крэдытную палітыку. З прыходам Тамары Віннікавай буйнейшым банкам краіны наканавана вярнуцца пад крыло дзяржавы, з-пад якога яны выбраліся 4-5 гадоў таму і за гэты час паспелі стаць на ногі і пераратварыцца ў класавых ворагаў для люмпенізаванай часткі грамадства.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## РЭЙТЫНГ. АКЦЭНТЫ. ВЕРСІІ.

### СПАДЗЯВАННЕ

**Адметнасць апошніх дзён — энергічныя захады кіраўнікоў краіны да развіцця, умацавання міждзяржаўных эканамічных стасункаў.**

Безумоўна, нешта кардынальна важнае ў стан вытворчасці, увогуле эканомікі Беларусі павінен прыўнесці плён ад будучага візіту Прэзідэнта Беларусі ў Расію. Як свайго роду падрыхтоўка да яго — наведванне Аляксандрам Лукашэнкам наваполацкага прадпрыемства па транспарціроўцы нафты «Дружба», а таксама вытворчага аб'яднання «Нафтан». Магчыма, знаёмства Прэзідэнта з сённяшнім станам адпаведнай галіны стане падмогай Аляксандру Лукашэнку ў перамовах з нафтавікамі Сібіры. Туды Прэзідэнт збіраецца пасля перамоў у Маскве.

Не абышлося на Віцебшчыне і без прыкрасцей. Сустрэчу ў Наваполацку Прэзідэнта з працаўнікамі ў мясцовым ДК давялося перанесці на плошчу. Прычына — паведамленне пра знаходжанне ў памяшканні выбуховага ўстройства. Наўрад ці была «бомба пад Прэзідэнта», але ж згадзіўшся дзеянні тых сіл ці толькі асоб-адзіночак, што і гэтак спрабуюць дэстабілізаваць сітуацыю.

### ФАРМАЛЬНА — НІЧОГА НЕ ЗДАРЫЛАСЯ. А РЭАЛЬНА — ТАКСАМА НІЧОГА НЕ ЗМЕНІЦЦА?..

**Забарона правесці 28 лютага на галоўнай плошчы сталіцы мітынгу і шэсця ў абарону правоў працоўных — заканамернасць, якой і трэба было чакаць. Фармальна, канешне ж, Мінскі гарвыканкам, адмаўляючы ў акцыі Асацыяцыі незалежных прамысловых прадпрыемстваў, зрабіў правільна, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.**

Але ж трэба ўлічваць і другое — нежаданне весці дыялог ці нават нежаданне прадставіць рабочым шанц «выпусціць пару» можа прывесці да таго, што наступныя патрабаванні шырокай прафсаюзнай грамадскасці акажуцца больш рашучымі і, магчыма, больш жорсткімі.

### МАГЧЫМА, УЦЕКАЧЫ ГОДА...

**Здавалася б, сёння ніякіх праблем з выездам не існуе. Звяртайся да ўладаў, афармляй паперы — і каціся на ўсе чатыры бакі.**

І вось сям'я беларусаў — муж і жонка Славушэўскія разам з дзецьмі — падчас тэхнічнай пасадкі самалёта, які рабіў рэйс Масква—Гавана, у аэрапорце Шэнан папрасіла палітычнага прыстанішча ва ўладаў Ірландыі.

Цікава, прызнаюць яны нашых грамадзян палітычнымі бежанцамі ці не? Ідзе высвятленне пэўных акалічнасцей.

## КВЕТКІ — АБАРОНЦАМ АЙЧЫНЫ

Святкаванне Дня абаронцаў Айчыны 23 лютага пачалося ў Мінску ў 10 гадзін раніцы на плошчы Перамогі. Пад гукі ваеннага аркестра да Вечнага агню былі ўскладзены вянкі ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў, Міністэрства абароны, ветэранаў, духавенства, іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.

Аддаючы воінскую пашану салдатам, якія загінулі пры абароне Айчыны, віталі цяперашнюю нацыянальную армію, якую Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка назваў у сваім звароце «школай мужнасці, патрыятызму, ідэйнай загартоўкі маладога пакалення», па плошчы ўрачыстым маршам прайшла рота ганаровай варты Мінскага гарнізона.

Вянкі і кветкі ў гэты дзень былі ўскладзены таксама да Кургана Славы і да мемарыяла «Мінск — горад-герой».

Вечарам у Мінску і крэпасці-героі Брэсце адбыліся салюты і святочныя феерверкі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**



*Мінск, плошча Перамогі. 23 лютага 1996 года. Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*

## СПРАВА ГОНАРУ, ДОБЛЕСЦІ І СЛАВЫ

«Гэта свята было і застаецца ўсенародным. Кожная сям'я ў Беларусі звязана з арміяй ці ў мінулым, ці цяпер», — сказаў, выступаючы ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман на адкрыцці ўрачыстага сходу, прысвечанага Дню абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Ён адбыўся 22 лютага ў Цэнтральным Доме афіцэраў. У сходзе прынялі ўдзел ветэраны вайны і працы, вядомыя армейскія і дзяржаўныя дзеячы, былыя і цяперашнія воіны.

Ветэранаў, салдат, сяржантаў, прапаршчыкаў і афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь павіншавалі са святам армейскай мужнасці і доблесці міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў і Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

# НЕКАТОРЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## з выступлення Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ на пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў

### У ЦЭЛЫМ АБ СТАНЕ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ

У глабальнай палітыцы Беларусь наўрад ці будзе адыгрываць значную ролю. Мы не вялікая дзяржава, таму палітычныя і стратэгічныя інтарэсы ў нас адпаведныя. Паўнакроўнаму існаванню беларускай дзяржаўнасці павінны адпавядаць шматвектарнасць, збалансаванасць і прагматычны характар адносінаў з іншымі краінамі. Менавіта такі падыход да фарміравання знешнепалітычнай стратэгіі нашай дзяржавы карыстаецца падтрымкай значнай большасці насельніцтва рэспублікі. Намаганні Беларусі ў знешнепалітычнай сферы сёння даволі раўнамерна размеркаваны па ўсіх напрамках. Калі на Усходзе гэта адносіны з Расіяй, Украінай, іншымі дзяржавамі Садружнасці, то на заходнім напрамку — гэта партнёрскія адносіны з Еўрасаюзам, расшырэнне і паглыбленне двухбаковых сувязей з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Беларусь крайне зацікаўлена ў расшырэнні эканамічнага супрацоўніцтва як з Амерыкай, так і з Заходняй Еўропай.

Разумею, што з геапалітычнага пункту гледжання Беларусь — дзяржава, якая падзяляе Балтыю і Украіну, на вялікай адлегласці мяжуе з Польшчай, што з'яўляецца асноўнай перашкодай любых спроб ізаляваць Расію ад Захаду. Папярэднія некалькі гадоў гэта пытанне ўслых не абмяркоўвалася, але цяпер вядзецца яго дэталёвая прапрацоўка. Адпаведна, узмацняецца ўздзеянне на Беларусь. Некаторыя заходнія дзяржавы, якія доўгі час не ўключалі нашу краіну ў пералік сваіх знешнепалітычных прыярытэтаў, усвядоміўшы магчымасць страты эфектыўнага палітычнага дыялога з Беларуссю, рэзка інтэнсіфікавалі сваю знешнепалітычную дзейнасць на нашым напрамку. Мы шчыра вітаем гэтыя змены.

### АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ І МІЖНАРОДНАЙ БЯСПЕЦЫ

У гэтым пытанні пакуль няма дакладнай і выверанай стратэгіі. Мы можам гаварыць толькі аб асобных разрозненых кроках, але не аб сістэмным і прадуманым падыходзе.

Што датычыць расшырэння НАТО, генералы Паўночна-атлантычнага альянсу заяўляюць, што мэта расшырэння — умацаванне стабільнасці ў Еўропе. Мы ўсе за бяспеку, але стварэнне новай архітэктуры еўрапейскай бяспекі не павінна суправаджацца ўзнікненнем новых бар'ераў на кантыненце. Чаму не прапанаваць, напрыклад, Беларусі ці Расіі ўступіць у НАТО? Не прапаноўваюць. Значыць, размова ідзе ўсё ж аб бяспецы, перш за ўсё, заходнееўрапейскіх краін. Але за кошт каго і ад каго? Сродкам процідзеяння паскоранаму расшырэнню НАТО павінны быць нейкія неардынарныя палітычныя крокі.

### АБ ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ І ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ

Задача Вярхоўнага Савета — перш за ўсё ў распрацоўцы заканадаўчай базы і ратыфікацыі міжнародных дагавораў. Нельга адстойваць нацыянальныя інтарэсы краіны і будаваць нармальныя адносіны з замежнымі партнёрамі, не падводзячы пад іх трывалую прававую аснову. Але вышэйсказанае не азначае, што некаторыя кіраўнікі, у тым ліку і Вярхоўнага Савета, ці дэпутаты павінны ўмешвацца ў работу МЗС, аказваць на яго націск з мэтай уплыву на знешнепалітычны курс дзяржавы. Такая так званая персанальная знешняя палітыка можа нанесці прамы ўрон інтарэсам нашай краіны. Знешняя палітыка не павінна быць арэнай паядынкаў, асабістых палітычных амбіцый.

У дэмакратычных краінах парламенцкая апазіцыя можа колькі ёй захочацца крытыкаваць урад, але за рубяжом кожны парламентарый лічыць сябе перш за ўсё прадстаўніком сваёй дзяржавы і ўстрымліваецца ад вынясення ўнутраных спрэчак і рознагалоссяў на суд зарубежнай аўдыторыі.

### АБ УРАДЗЕ

У апошні час Кабінет Міністраў нагадвае мне каманду пажарнікаў, якія тушаць «ачаг» толькі ў тым выпадку, калі Прэзідэнт возьме «рукаў» і паднясе яго да гэтага пажару. Павінен прызнаць: ці я памыліўся па віцэ-прэм'ерах, ці нам давядзецца рабіць вельмі сур'ёзныя высновы, зыходзячы з той сітуацыі, якая складваецца ў кіраўніцтве ўрада.

### АБ ПРЫЧЫНАХ АДМОВЫ ПАЕЗДКІ У ДАВОС

Бульварныя выданні падалі інфармацыю так, быццам я не паехаў на міжнародны эканамічны форум у Давос таму, што «там яго не прымаюць». Так, кіраўнік дзяржавы не паехаў у Давос, але па адной простай прычыне — у гэты дзень аперыравалі малодшага сына. Як бацька, я хоць бы павінен быў паглядзець на яго пасля аперацыі.

### АБ КАДРАВАЙ ПАЛІТЫЦЫ

Мы страцілі ўвесь кадравы патэнцыял. Мы страцілі наогул рэзерв кадраў. Яго проста спалілі і знішчылі. Сёння навобмацак, праз людзей, якія некалі мелі дачыненне да ЦК Камуністычнай партыі рэспублікі, спрабуем хоць бы знайсці спісы рэзерву кадраў.

У рэспубліцы на кадры страшны голад. Калі не будзе людзей, здольных кіраваць дзяржавай як суверэннай, — грош цана ўсёй нашай палітыцы. Не трэба баяцца разумных людзей. Мой дэвіз — «шукай людзей, якія разумнейшыя за цябе, і падцягвай да сябе. Няхай яны працуюць». Разумны чалавек і цябе ўзніме на больш высокі ўзровень.

### АБ МЯРКУЕМАЙ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫІ КАМЕРЦЫЙНЫХ СТРУКТУР

Я спыніў усякую рэгістрацыю камерцыйных і дзяржаўных структур. Суб'екты гаспадарання могуць быць зарэгістраваны толькі са згоды Прэзідэнта. Мы ведаем механізм перарэгістрацыі камерцыйных структур. У прыватнасці, у Мінску кіраўнікі адміністрацый павінны будуць вызначыць свае пазіцыі з МАЗам, іншымі прадпрыемствамі, якія ратуюць наш народ, колькі ім трэба гандлёва-пасрэдніцкіх структур, якія выконваюць ролю дылераў. Колькі трэба, бяры, пакідай і адказвай за іх.

У нас жа сёння адбываецца развал і разбой. Як можна кантраляваць 300 тысяч зарэгістраваных у рэспубліцы камерсантаў, 30 працэнтаў з якіх стратныя, а 20 працэнтаў наогул не робяць ніякіх дзеянняў па разліковых рахунках. Хіба можа камерсант стратна працаваць? Проста падманваюць, каб не плаціць падаткі! Каму на руку такая сітуацыя? **«Інтэрфакс»**

## Запазычанасць суб'ектаў гаспадарання рэспублікі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва набліжаецца да аднаго трыльёна рублёў

**Адбылося пашыранае пасяджэнне калегіі Міністэрства сацыяльнай абароны рэспублікі. Праблемы сацыяльнай абароны сёння хвалююць многіх, таму чытачам «Звязды», напэўна, будзе цікава даведацца, аб чым ішла гаворка на нарадзе.**

### ПЕНСІЁННАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

Колькасць пенсіянераў, якія стаяць на ўліку ў органах сацыяльнай абароны, на пачатак года склала ў рэспубліцы 2 млн. 530 тыс.чалавек. Сярэднямесячная пенсія за 1995 год з улікам даплат і кампенсацый склала 323 тыс. 800 рублёў. Суадносіны сярэднямесячнай пенсіі і сярэднямесячнай зарплаты ў мінулым годзе — 43 працэнты. Гэты паказчык у 1994 годзе быў роўны 32,8 працэнта. Сярэднямесячная пенсія за мінулы год павялічылася ў 10,2 раза, у той час як сярэдняя зарплата — у 7,7 раза. Аднак, нягледзячы на гэтае павелічэнне, у многіх пенсіянераў памер пенсіі быў ніжэйшы за рысу малазабяспечанасці.

Акрамя таго з мая мінулага года выплата пенсій праводзілася са спазненнем. Асноўнай прычынай нестабільнасці пенсіённага забеспячэння застаецца несвоечасовая ўплата суб'ектамі гаспадарання страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Запазычанасць прадпрыемстваў фонду набліжаецца да аднаго трыльёна рублёў. І пакуль становішча не зменіцца, увайсці ў графік выплат пенсій будзе вельмі цяжка.

### САЦЫЯЛЬНАЯ РЭАБІЛІТАЦЫЯ ІНВАЛІДАЎ

Занепакоенасць выклікае вырашэнне праблем сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў, якіх у рэспубліцы 418 тысяч чалавек. Адным з асноўных напрамкаў рэабілітацыі з'яўляецца пратэзна-артапедычная дапамога. На ўліку ў Беларускім пратэзна-артапедычным аднаўленчым цэнтры стаіць больш як 65 тысяч хворых. Нягледзячы на тое, што вытворчасць спецсродкаў для інвалідаў узрасла, на рабоце цэнтра сур'ёзна адбіваецца пастаянная запазычанасць мясцовых бюджэтаў па аплаце за выдадзеныя інвалідам вырабы, якая штомесяц даходзіць да 1,5 млрд. рублёў.

Ужо не першы год існуе праблема забеспячэння інвалідаў аўтатранспартам. Сёння ў чарзе на атрыманне спецтранспарту знаходзіцца 7200 інвалідаў, у тым ліку 1400 інвалідаў вайны. Калі ў 1993 годзе за кошт мясцовых бюджэтаў было куплена для інвалідаў больш як дзве тысячы аўтамабіляў, то ў 1994 г. — 1310 штук. Што датычыць мінулага года, то з бюджэтаў абласцей і г.Мінска былі выдзелены сродкі на набыццё толькі 441 аўтамабіля з выдзеленых інвалідам 601.

Недахват фінансавых сродкаў на набыццё спецтранспарту, пастаянна ўзрастаючы кошт аўтамабіляў вымусілі ўрад пайсці на непапулярныя меры. Зараз аўтатранспарт выдзяляецца толькі тым інвалідам, якія маюць медыцынскае заключэнне на яго атрыманне і самі ў стане ім кіраваць. Выдзяленне інвалідам спецтранспарту з правам кіравання сваяком не прадугледжваецца. У выніку каля дзвюх тысяч інвалідаў, у асноўным вайны, якія не могуць кіраваць аўтамабілем, зняты з чаргі.

Таму Міністэрства сацыяльнай абароны звярнулася з прапановай у Кабінет Міністраў прыняць пастанову аб значным павелічэнні кампенсацыі на транспартнае абслугоўванне гэтым асобам.

### ПРАБЛЕМЫ СЯМ'І

Апошнім часам становішча жанчын і дзяцей, увогуле беларускай сям'і, рэзка ўскладнілася. І ў першую чаргу сем'яў з непаўналетнімі дзецьмі, бацькі якіх непрацаздольныя ці маюць нізкія даходы, мнагадзетных сем'яў, сем'яў беспрацоўных і г.д. Да таго ж аслабла і дзяржаўная падтрымка сем'яў: зменшылася колькасць тых, хто атрымлівае дапамогі на дзяцей, старэй за 3 гады, — з 41,5 працэнта ў 1994 годзе да 30 працэнтаў у 1995 годзе. Рэальная значнасць атрымліваемых бацькамі дзяржаўных дапамог знізілася ў выніку прывязкі іх да мінімальнай зарплаты, удзельная вага якой у мінімальным спажывецкім бюджэце ўпала з 57,8 працэнта ў студзені 1993 года да 10,8 працэнта — у студзені бягучага. Міністэрствам сацыяльнай абароны падрыхтаваны шэраг нарматыўных актаў аб сацыяльнай падтрымцы сем'яў з дзецьмі, арганізацыі харчавання школьнікаў, аздараўленні дзяцей, зменах існуючага парадку прадастаўлення бясплатнага харчавання дзецям першых двух гадоў жыцця з мнагадзетных і маламаёмных сем'яў.

Падчас калегіі былі разгледжаны таксама пытанні сацыяльнай абароны ваеннаслужачых запасу, сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў, дзейнасці дамоў-інтэрнатаў і г.д.

**Аляксандр ШЧАДРАНОК.**



*БАНКІ*

## «МІЖКАМБАНК» выступае за цеснае супрацоўніцтва з беларускімі калегамі

**Учора ў Мінску маскоўскі банк «Міжкамбанк» правёў семінар, на які былі запрошаны вядучыя банкі рэспублікі.**

Гэтае мерапрыемства было праведзена з мэтай развіцця і ўмацавання адносінаў супрацоўніцтва паміж банкамі Беларусі і «Міжкамбанкам», выяўлення ўзаемавыгадных і перспектыўных накірункаў сумеснай дзейнасці.

Расійскі бок азнаёміў калег з агульным станам банкаўскай сістэмы Расіі сёння, асаблівасцямі расійскага фінансавага рынку ў паслякрызісны перыяд, са спецыфікай дзейнасці «Міжкамбанка» ў галіне крэдытнай рызыкі, інвестыцыйнай дзейнасці і работы на фондавым рынку.

Намеснік старшыні праўлення «Міжкамбанка» Аляксандр Грыгор'еў, які сваім выступленнем адкрыў семінар, ахарактарызаваў стан банкаўскай сістэмы ў Расіі вясной — восенню 1995 года, вызначыўшы пры гэтым асноўныя прычыны банкаўскага крызісу, рэйтынг і спецыфіку стратэгіі розных банкаў у перыяд крызісу, верагодныя наступствы для расійскай банкаўскай сістэмы.

Потым пачалася работа па секцыях. Кіраўнік упраўлення кароткатэрміновых аперацый на грашовым рынку спадар Асаліеў расказаў пра палітыку «Міжкамбанка» ў галіне крэдытнай рызыкі і абмаляваў сітуацыю ў банкаўскай сферы ў паслякрызісны перыяд і асноўныя прынцыпы работы «Міжкамбанка» ў галіне кіравання крэдытнай рызыкай. Выступоўца не забыў расказаць пра стратэгію і тактыку кіравання актывамі і падтрымання ліквіднасці.

У працэсе сустрэчы закраналіся пытанні дзейнасці службы ўнутранага банкаўскага аўдыту, дзе былі вызначаны яе структура, функцыі, прынцыпы арганізацыі, а таксама стан фондавага рынку Расіі, інвестыцыйная дзейнасць «Міжкамбанка» ва ўмовах правядзення інвестыцыйна-грашовай прыватызацыі ў Расіі і некаторыя іншыя праблемы.

Больш падрабязную інфармацыю аб рабоце «Міжкамбанка» ў Беларусі можна будзе даведацца ў адным з бліжэйшых нумароў газеты.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## Крызіс мясцовых Саветаў часова вырашаны?

Дзень 23 лютага беларускі парламент прысвяціў шэрай і руціннай, але патрэбнай рабоце над падатковым заканадаўствам. Святочны настрой панаваў хіба што з раніцы, ды ў сярэдзіне дня, паколькі ўчора парламент згодна з графікам працаваў да чатырнаццаці гадзін. З Днём абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Беларусі ад імя Прэзідыума дэпутатаў павіншаваў Сямён Шарэцкі, а затым ад імя дзевяці жанчын-дэпутатак сваіх калег-мужчын павіншавала спадарыня Целябук. А згодна з неафіцыйнымі звесткамі, Сакратарыят Вярхоўнага Савета да віншаванняў выдаў дэпутатам і супрацоўнікам апарату парламента па 30 тысяч рублёў.

А днём раней, дакладней, на вячэрнім пасяджэнні 22 лютага, парламентарыі перш за ўсё вярнуліся да праблемы існавання і дзейнасці органаў мясцовай прадстаўнічай улады. Пасля нядаўніх спрэчак, якія ў большасці зводзіліся да таго, трэба ці не прымаць менавіта сёння Закон «Аб унясенні змяненняў у Закон «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», перамаглі прыхільнікі першай ідэі. Закон быў адобраны большасцю дэпутатаў у той рэдакцыі, у якой яго прапанавала Камісія па дзяржаўнаму будаўніцтву і самакіраванню. Згодна з ім колькасць выбраных дэпутатаў, неабходная для пачатку работы мясцовых Саветаў, зніжана з двух трацей да 50 працэнтаў, а кворум для галасавання — з двух трацей да паловы. Такім чынам, гэтае рашэнне дазволіць у хуткім часе склікаць сесіі яшчэ 9 Саветаў, у тым ліку і Гродзенскага абласнога. Гэта дасць магчымасць абмеркаваць і прыняць мясцовыя бюджэты ва ўсіх абласцях і шэрагу буйных гарадоў краіны. Аднак гэты крок не знімае праблемы з мясцовымі Саветамі цалкам. Як вядома, выбары ў маі, лістападзе і снежні 1995 года не далі чакаемых вынікаў у 23 Саветах (несфарміраванымі аказаліся Гродзенскі абласны, Мінскі гарадскі, 19 гарадскіх Саветаў дэпутатаў абласнога падпарадкавання, 1 гарадскі раённага падпарадкавання і 1 пасялковы).

Вырашыць гэтую праблему дэпутаты палічылі магчымым пры дапамозе пастановы Вярхоўнага Савета. Адносіны да яе былі неадназначныя. Сямён Шарэцкі, напрыклад, заклікаў калег пачакаць, параіцца з Прэзідэнтам, са старшынямі абласных Саветаў, але дэпутаты настаялі на сваім. Прынятая пастанова сцвярджае, што «мясцовыя Саветы дэпутатаў, новы састаў якіх не выбраны ў правамоцнай колькасці дэпутатаў, прадоўжаць выкананне сваіх функцый у межах і аб'ёме, вызначаных Канстытуцыяй і законам». Такім чынам, там, дзе няма новых, будуць працягваць работу старыя Саветы.

Закон будзе накіраваны на подпіс Прэзідэнту і ўступіць у сілу з моманту яго апублікавання.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ВЯЛІКІ БАНКАЎСКІ ПЕРАДЗЕЛ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прэзідэнт узяў пад уласны жорсткі кантроль банкаўскую сферу. У Вярхоўнага Савета рычагоў уздзеяння на кіраўніка дзяржавы нямнога. Калі парламент адмовіцца зацвердзіць Тамару Віннікаву на новай пасадзе — дэ-юрэ новая старшыня праўлення Нацбанка апынецца па-за законам. Але з тым большай адданасцю Прэзідэнту яна ў гэтым выпадку будзе выконваць свае абавязкі дэ-факта.

Найбуйнейшы банк краіны — Ашчадны «Беларусбанк» — узначаліла другая паплечніца Прэзідэнта — Надзея Ермакова. Аляксандр Лукашэнка, прадстаўляючы яе калектыву банка, прызнаўся, што галоўныя якасці гэтай жанчыны, якую ён ведае 12 гадоў, — сумленнасць і прыстойнасць. А тое, што новай банкірцы не хапае вопыту высокай кіраўніцкай дзейнасці, паводле слоў Прэзідэнта, справа нажыўная — не багі гаршкі лепяць.

Спецыялісты адзначаюць, што Надзеі Ермаковай, сапраўды, давядзецца сутыкнуцца з вялікімі цяжкасцямі, асабліва на першым часе. З 1984 па 1994 год яна працавала загадчыцай фінансавага аддзела, намеснікам старшыні Шклоўскага райвыканкома — і не была звязана напрамую з банкаўскай справай. А ў «Беларусбанку» яна — толькі са студзеня гэтага года.

Паводле некаторых звестак, Тамара Віннікава рэкамендавала на гэту пасаду зусім іншую асобу, але Прэзідэнт настаяў на сваім рашэнні.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# ЖЫЦЦЁ ВАРТАЕ ТАГО, КАБ ЧАКАЦЬ?

***НАВАТ ДЗІЎНА, што так нядаўна з'явілася ў нашым лексіконе трапнае слова «жыццяпіс». А можа, яно проста было забыта, як і многія іншыя прыгожыя і мудрыя, спрадвечныя нашы словы, а потым нейкі руплівец выцягнуў яго са старажытнай скарбонкі на свет божы і прымусіў загучаць зноў? Як бы там ні было, добра, што яно ёсць. Інакш зараз я проста не ведала б, як назваць тое, што збіраюся напісаць. Біяграфія — не, гэта зусім іншае, больш сухое, афіцыйнае, замураванае, строга акрэсленае дзвюма датамі — нараджэння і смерці. Жыццяпіс (хаця, па сутнасці, гэта і ёсць пераклад больш прывычнага нам грэчаскага слова) — зусім не тое самае. У ім боль, радасць, чаканні, надзеі, перажыванні чалавека. У ім не раскладзена ўсё па палічках, не апісваюцца факты жыцця ў строга хparty храналагічнай паслядоўнасці. Героі біяграфіі — часцей за ўсё вядомыя людзі, якія пакінулі на зямлі свой след плённай дзейнасцю ў той ці іншай сферы жыцця. Жыццяпіс — для ўсіх. У кожнага — свой.***

Мая гераіня за сваё доўгае жыццё не напісала ніводнай кнігі (яна і чытала па складах), не намалявала ніводнай прыгожай карціны, нават не была ўдарніцай пяцігодак. Яна толькі пасадзіла некалькі дрэў і выгадавала двух сыноў. Яна была простая вясковая працаўніца. Усё жыццё. Такіх, як яна, шмат на нашай зямлі. Таму не лічу патрэбным называць яе імя. Яна, як прынята ў нас гаварыць (Божа, і прыдумаў жа нехта такое!) — тыповая гераіня. Ёй «не паложана» мець напісаную некім біяграфію з поўным імем і прозвішчам, з месцам нараджэння, з дзвюма датамі — пачатку і канца. А вось жыццяпіс (як добра ўсё-такі, што ёсць такое слова!) напісаць можна. Хаця б таму, што на такіх, як яна, «тыповых» і трымаецца свет, яны і ствараюць жыццё, працуючы, гаруючы, радуючыся, садзячы дрэвы і гадуючы дзяцей...

... **ЁЙ, НАПЭЎНА, УСЁ ЖЫЦЦЁ** было наканавана гараваць і чакаць. Дакладней, чакаць гаруючы (ці наадварот, не ведаю, як лепш перадаць сэнс). Спачатку чакала таго, адзінага, які раптам з'явіцца і забярэ з дому, прымусіць забыцца пра ранняе сіроцтва, з якім нарэшце адчуе сябе шчаслівай. Чакала доўга, цягнучы лямку гаспадыні ў бацькоўскай хаце. Чакала, перабіраючы, адмаўляючы многім (першая прыгажуня на вёсцы была, дый нябедная). Употай ад бацькі пудрыла шчокі і ўцякала на вячоркі, дзе збіралася моладзь. Чакала-выглядала, калі нарэшце з'явіцца ён, адзіны. І... дачакалася. Ах, які ён быў прыгожы, яе муж! І відны сабой, і нябедны. І кахаў яе моцна. Не дазваляў нават цяжкай работы рабіць, спецыяльна наймаў жанчыну. Пасля, калі калгасы сталі, пайшла працаваць і яна. Усё роўна жылі нябедна, двух сыноў гадавалі, дружна жылі, значыць, лічы, шчасліва...

Шчасця гэтага адмерана ім было шэсць гадоў. А ў трыццаць сёмым забралі мужа. Брыгадзірам ён быў у калгасе, а ў віну яму паставілі тое, што град у яго брыгадзе грэчку пабіў. Забралі і дакументы, і фотакарткі ўсе, каб нават напаміну пра яго не засталося. Праўда, бачыла мужа яшчэ раз, калі прывезлі яго пад канвоем у хату, а яе з малымі паставілі да печы і ўзялі на прыцэл. Гэта нейкі «добразычлівец» данёс у «органы», што, акрамя цялушкі, даваў за ёй бацька ў пасаг сто царскіх залатых чырвонцаў. Вось і прыехалі НКУСаўцы разам з гаспадаром тое золата шукаць. А каб не важдацца доўга — жонку з дзецьмі да сцяны: не скажаш, дзе схаваў, тут ім і ўсё будзе. Сказаў, вядома ж. Кожны ў такой сітуацыі не маўчаў бы...

Больш яна мужа не бачыла. Ездзіла, праўда, у Мінск, кінуўшы дзяцей на залвіцу, склаўшы ў хатулёк сякі-такі харч і бялізну. Бывала, што і прымалі ў турме перадачу, а часцей стаяла яна з такімі ж гаротніцамі перад будынкам з кратамі, дарэмна чакаючы. Стаялі яны доўга, пакуль не выязджалі конныя міліцыянеры і не разганялі жаночы натоўп, топчучы яго коньмі і б'ючы па галовах шаблямі ў ножнах (на шчасце, цуда- вынаходка — дубінка, не была тады ва ўжытку). Бывала, спазнялася на апошні цягнік, што ішоў бліжэй да вёскі. Тады даводзілася начаваць на вакзале, а часцей— у вакзальнай прыбіральні (з вакзала ноччу выганялі). Ехала раненька дадому, ішла на працу ў поле, глядзела за дзецьмі, а праз некалькі дзён зноў збірала хатулёк, зноў ехала ў Мінск, зноў чакала...

Праз паўгода не стала пакутнага чакання на плошчы перад турмой. Ёй, персанальна ёй, сказаў нейкі начальнік, што перадачы на імя мужа прымацца больш не будуць. Перавялі, маўляў, у іншае месца, а куды — гаварыць не загадана. Розум падказваў, што няма ўжо бацькі яе дзяцей жывога. А сэрца верыць не хацела. Заходзілася ад жалю і чакала...

**ГАРОТНЫЯ БЫЛІ ГАДЫ**, а бывала, і галодныя. Завялі сваю карову, дзеці ўсё-такі малыя былі. Касілі на гэту скаціну, сушылі, вазілі, аралі і сеялі дзве бабы — яна і залвіца. Жонка і сястра «ворага народа». Хто ж дапаможа такім?.. Кожны, хто меў карову, павінен быў па закону здаваць у калгас колькі літраў малака. Карова не доіцца, на цяленні — нікому няма да таго справы. Купляла малако ў суседзяў, здавала патрэбныя літры, а сама хавала вочы ад дзяцей, якім варыла посную бульбу... Падрасталі сыны, цешылася, гледзячы, як старэйшы ўсё больш і больш высокім лобам і постаццю становіцца падобным на бацьку, радавалася, што будзе хутка падмога, спадзявалася, што ўсё-такі пакажа іх бацьку: паглядзі, якіх я табе выгадавала...

Потым была вайна. Не, яна не была ў партызанах. Не было паблізу атрада, дый немцы абміналі вёску. Яна проста працавала на зямлі, зноў арала, сеяла, касіла, хвалявалася за сыноў-падлеткаў, якія маглі знайсці дзе-небудзь гранату ці падацца шукаць партызан. Для яе ж галоўным было зберагчы дзяцей: а раптам вернецца.

**ЯНА ЧАКАЛА І ПАСЛЯ ВАЙНЫ**. Хаця гэта чаканне стала ўжо, бадай, прывычкай, з'явіліся новыя. Чакала і дачакалася дарослых ужо сыноў з войска. Чакала, калі пажэняцца хлопцы, — і вось ужо прывёў у хату нявестку спачатку старэйшы сын, крыху пазней — малодшы. На вяселлі маладых сустракала з братам замест мужа. Чакала першага ўнука — і вось ужо закугакаў у хаце сынаў першынец, а пасля яшчэ і яшчэ... Жыла са старэйшым сынам, працавала, гадавала ўнукаў. Толькі не было поруч моцнага пляча, на якое можна было б абаперціся, не было ласкі. Хаця магло быць новае шчасце, бо прыгожая была маладая трыццаціпяцігадовая ўдава, дый у пяцьдзесят яшчэ погляды прываблівала. Але ўсім адмаўляла, бо — чакала.

І — дачакалася. Роўна праз трыццаць гадоў прыйшлі паперы аб рэабілітацыі мужа. І пасведчанне аб смерці, у якім у радку «месца смерці» — прочырк, «прычына смерці» — таксама. А «дата смерці» — снежань трыццаць сёмага...

Не плакала — усё выплакана было за трыццаць гадоў. Зразумела адно: пачынаць жыць для сябе ўжо позна. Зразумела і ... змірылася.Спрадвечная вясковая жыццёвая філасофія. Дзіўная, пакуль што, здаецца, нікім цалкам не разгаданая. Але той, хто жыве ў вёсцы, нават падсвядома ёй падпарадкоўваецца. Вёска не прызнае ныцця і слёз. У натуральным адборы выжывае мацнейшы... Яна спасцігала гэту філасофію з маленства. Таму нікому не скардзілася, таіла ўсё ў сабе, і ад гэтага здавалася нават суровай. І маршчыны першыя з'явіліся каля рота — можа, ад таго, што ўвесь час — праз сябе, сціснуўшы зубы?..

**У ЯЕ САПРАЎДЫ БЫЛА ДАРОГА** ад печы да парога. Яшчэ ў двор, у хлеў, на сенажаць, у лес... У Мінску пасля вайны была, пэўна, разоў дзесяць, не больш, у гасцях у малодшага сына. Ехала ў горад з ахвотай, з разлікам пабыць тыдні два, а праз колькі дзён вярталася, уздыхнуўшы з палёгкай, скідала туфлі, апранала рабочую сукенку і з нейкай паспешлівай рухавасцю ішла басанож з сярпом да плота — жаць крапіву парасятам...

За жыццё яна так нічога і не сабрала — уся зарплата, а потым пенсія ішлі ў агульны бюджэт, толькі, бывала, адкладвала якую «пяцёрку» — даць малодшаму, калі прыедзе. І ўсё ж у яе быў свой скарб — пачак з кардону (ці, як яна яго па-мясцоваму называла, «пудэлак»), у якім было ўсё яе багацце: дакументы аб рэабілітацыі мужа, фота, дзе яна з ім (адзінае, яно захавалася ў брата), каталіцкі парваны малітоўнік, фатаграфіі дзяцей і ўнукаў... У суседнім пакоі, у сямейным альбоме, ляжалі такія ж самыя фотаздымкі, але яна іх не прызнавала, берагла начынне «пудэлка», вельмі злавалася, калі хто з унукаў без дазволу даставаў яго з шафы...

**ЦІ ВЕРЫЛА ЯНА Ў БОГА**? Цяжка адказаць адназначна. Бывала, малілася, бывала, пасціла перад святамі. Потым у яе з'явіліся свае рахункі да Усявышняга. Пахаваўшы пяцідзесяцідвухгадовага старэйшага сына, яна ўпэўнена заявіла сваякам: «Бога няма. Каб ён быў — ён бы так не зрабіў». Так яна і не даравала Богу. І, ужо лежачы моцна хворая, адмовілася спавядацца: «Навошта мне гэта? Я ж нікога не забіла»...

Бог даў ёй доўгі век. Яна пражыла дзевяноста. Павырасталі ўнукі, дачакалася праўнукаў. Яны сталі радасцю і сэнсам жыцця. Цешылася, калі суседзі, гледзячы на малодшую ўнучку, казалі: «Дзіва, як яна на цябе падобная!» З гордасцю яна адказвала: «Ну, то хоць гэта, можа, пажыве па-людску і за сябе, і за мяне». Праўнучак ужо не магла запомніць па імёнах, увесь час блытала, але любіла іх вельмі. Раніцай, улетку, калі малыя яшчэ спалі, яна ішла ў сад і шурпатымі агрубелымі рукамі абірала ў прыпол жмені тры агрэсту, высыпала іх на стол, каб малыя, устаўшы, пачаставаліся гатовымі ягадамі, а не лезлі кволымі пальчыкамі ў калючыя кусты...

Яна кожны дзень шукала сабе работу. Работу цяжкую, фізічную, каб нешта цягаць, рухацца. Казала: «Пакуль раблю — жыву». Шматгадовая прывычка? Ці яшчэ адзін пастулат дзіўнай вясковай філасофіі?..

Нават у апошнія гады яна чакала. Не так безнадзейна, як раней, не так адчайна. Штодня — нявестку з працы. Па выхадных — унукаў з горада. Зноў чакала...

Яна сканала ў акружэнні сваякоў у хаце, у якую калісьці прывёў яе муж, у якой пражыла ўсё жыццё, у якой усё гэта жыццё — ад печы да парога...

...**ПАМЯТАЕЦЕ ВЕРШ КАРАТКЕВІЧА** «Калі паміраюць...»? Там пералічваюцца і дрэвы, і жывёлы, і гарады, і планеты, і тое, што пасля іх застаецца. Няма толькі страфы «Калі паміраюць людзі». Здаецца, я пачынаю разумець, чаму. Бо тут не скажаш адным радком, што пасля іх застаецца. Кожны пакідае сваё. А яшчэ больш забірае з сабой.

Што панесла з сабой мая гераіня? Што хавала ў душы? Чаго не хацела нікому сказаць?

Аб гэтым ціха разважалі яе дарослыя ўнукі, седзячы ля труны...

Адной з іх была я. Зрэшты, гэта справы зусім не датычыць...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

***P.S. І ўсё ж, паставіўшы апошнюю кропку, прыйшла я да думкі, што трэба напісаць імя. Бо лёс маёй гераіні, нягледзячы на усю «тыповасць»,— адзіны і нікім больш не паўтораны. Тым больш, імя яна мела прыгожае і вельмі рэдкае — Эмілія. Прозвішча, як вы зразумелі, у мяне з ёй адно...***

**26 лютага праваслаўныя хрысціяне ўступаюць у Вялікі пост, што папярэднічае Светламу Хрыстоваму Уваскрэсенню — святу Пасхі, якое сёлета будзе святкавацца 14 красавіка.**

**Прапануем вашай увазе Вялікапоснае пасланне, з якім Яго Высокапраасвяшчэнства Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, будзе звяртацца ў Даравальную нядзелю 25 лютага да праваслаўнай паствы Беларусі.**

# ВЯЛІКАПОСНАЕ ПАСЛАННЕ
## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

*«Пакідаючы няведання часы, цяпер Бог патрабуе ад усіх людзей усюды пакаяцца» (Дзеянні 17, 30).*

Узлюблёныя ў Хрысце браты і сёстры!

Надышоў час Вялікага посту — святой Чатырохдзесятніцы, і Праваслаўная Царква заклікае кожнага з нас: «Постное время светло начнем, к подвигам духовным себе предложивше, очистим души, очистим плоть...»

«Светло начнем» — азначае прабачым адзін аднаму ўсе вольныя і нявольныя грахі, учыненыя намі словам, справаю ці думкаю. Мы ўсе грашым, бо свет ляжыць у зле. І нават самая малая наша правіннасць перад бліжнім памнажае зло свету гэтага. Але нашае шчырае ўзаемнае прабачэнне робіцца светлым промнем любові, які асвятляе шлях да ўрачыстасці чаканай Пасхі Хрыстовай.

Надыходзячы час Вялікага посту — гэта перыяд асаблівага крыжанашэння, бо яно адбываецца па вобразу Хрыстову. Перад Сваім Уваскрэсеннем Гасподзь наш Ісус Хрыстос спазнаў тугу здрады, цяжар знявагі, боль пабояў і мукі распяцця. Дзеля ўспаміну аб гэтым на працягу надыходзячых сарака дзён мы з вамі здзяйсняем суровы, скрушны, пакаянны і ўрачысты духоўны крыжовы ход. Бо мы, носячы імя Хрыстова, ад пачатку пакліканыя ўзяць свой крыж і пайсці ўслед Збавіцелю: ісці за нашым Госпадам нават да смерці, а значыць — і да Уваскрэсення!

Памятайце, узлюбленыя мае, што святло Уваскрэсення Хрыстовага заззяла там, дзе былі распяцце і смерць: над Галгофскай гарой, над Гробам Гасподнім.

У Даравальную нядзелю мы прыгадваем выгнанне Адама з раю. Першы чалавек быў выгнаны з Ойчага дому Богам, да Якога і мы звяртаемся са словамі: «Ойча наш!..» Таксама, як праайцец Адам, і мы прагнем вярнуцца ў абіцелі Айца Нябеснага, бо там, у Царстве Божым — наш сапраўдны дом, падрыхтаваны нам ад стварэння свету.

Але перш, чым вярнуцца ў сваю Нябесную Айчыну, вандруючы па днях, гадах і дзесяцігоддзях часовага зямнога жыцця, мы пакліканыя па-свойму перажыць шматвекавое пакаянне Адама. Паводле слова свяціцеля Ігнація Бранчанінава, «загінуў чалавек па свабоднай волі і ўратавацца дадзена яму па свабоднай волі. Пакайцеся і веруйце».

Братазабойства бачыў Адам сярод сваіх сыноў, — і мы бачым, як цэлыя народы ўчарашніх братоў зноў пачынаюць ненавідзець і забіваць адзін аднаго. Распуснасць дачок перажывала прамаці Ева, — памнажэннем распусты і разбурэннем сем'яў азмрочаны і наш час. Але Адам быў пахаваны пад Галгофскай гарою, і Кроў Збавіцеля амыла грахі яго, сцякаючы на косці яго. — Так і мы ачышчаемся Крывёю і Целам Збавіцеля, прычашчаючыся Святых і Страшных Хрыстовых Тайнаў.

Калі Адам пакаштаваў плод зла ад забароненага дрэва пазнання, ён тым самым парушыў запаведаны яму пост. — Так і нам з вамі дадзены пост, каб не памножыць грахоў і пакаяцца ва ўчыненым намі зле. «Пакуль не прыйшла смерць, пакуль не зачыненыя дзверы, не страчана магчымасць увайсці, пакуль не ахоплены сусвет жахам, пакуль не згасла святло... прасі, грэшнік, міласэрнасці ў Госпада», — заклікае нас прападобны Яфрэм Сірын.

Права і магчымасць пакаяння дадзены людзям як найвялікшая міласць Божая. Пакаянне — гэта плод дрэва жыцця, якое расце пасярод раю, і яно ўваскрашае многіх памерлых у грахах. Калі кожнае грэхападзенне азначае духоўную смерць, дык кожнае раскаянне робіцца нашым уваскрэсеннем! І калі Гасподзь кажа: «Выберы жыццё!» (Другазаконне 30, 19), Ён заклікае нас да пакаяння.

Прарок Ірэмія заклікаў народ Божы больш за дзве з паловаю тысячы гадоў таму: «Паспрабуем і даследуем шляхі свае, і звернемся да Госпада. Уздымем сэрца наша і рукі да Бога, існага на нябесах: мы адпалі і ўпарціліся» (Плач Ірэміі 3, 40-42).

Хіба не да ўсіх нас звернуты гэты заклік, калі мы называем сябе Божымі дзецьмі? І хіба не пра нас, тых, хто жыве сёння з надзеяй, сказаў Сам Гасподзь Уседзяржыцель:

«І змірыцца народ мой, які імянуецца імем Маім, і будуць маліцца, і прагнуць вобразу Майго, і звернуцца з марных шляхоў сваіх... Я пачую з неба і прабачу грахі іх і ацалю зямлю іх» (2 Кніга Параліпаменон 7,14).

Цяпер, калі мы ўступаем у перыяд Вялікага посту, каб напружанай духоўнай працай адрадзіць свае душы і ачысціць сэрцы, мы павінны памятаць словы свяціцеля Іаана Златавуста аб тым, што «пра пакаянне сведчаць не словы, а справы». Будзем жа ўхіляцца ад зла і рабіць дабро, не паўтараючы і не памнажаючы ўжо спаведаных намі грахоў і злачынстваў. І Гасподзь пачуе нас і прыме ў Сваю Пасхальную радасць, бо Ён сказаў: «Калі будуць грахі вашы, як багровае, — падобна снегу ўбялю; калі будуць чырвоныя, як пурпура, — падобна хвалі ўбялю» (Ісаія 1,18).

Мы рабы Твае, Госпадзе; няхай збудзецца нам па слову Твайму! Амінь.

**ФІЛАРЭТ,**
**мітрапаліт Мінскі і Слуцкі**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

*25 лютага 1996 года, Даравальная нядзеля, Мінск.*

*ФАТОГРАФЫ СУПРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ*

# КАМАРЫН ЯК ЛЮСТЭРКА ТРАГЕДЫІ

**Першым па смяротнасці ў Брагінскім раёне лічыцца цяпер Камарынскі сельскі Савет. Старшыня Савета Сяргей Пугач адвозіць у Брагін, каб засведчыць факт смерці, не менш трыццаці пашпартоў штомесяц. У шасці населеных пунктах Савета пражываюць цяпер 3367 чалавек (магчыма, сёння гэтая лічба ўжо меншая).**

**Смерць у гэтай мясцовасці даўно перайшла ў ранг будзённых спраў; зрэшты калі і нараджэнне дзіцяці стала «дэфіцытам».**

**Самі за сябе гавораць лічбы:**

**1986 г. нарадзілася 36 чалавек, памёрла 37;**

**1990 г. — нарадзілася 25, памёрла 49;**

**1994 г. — нарадзілася 31, памёрла 78.**

**Сцвярджаць, што радыяцыя тут ні пры чым — значыць пярэчыць здароваму сэнсу. І не мець элементарнай маралі. Фактар «чыстай» зоны пад самым бокам Чарнобыльскай атамнай станцыі (28 км), якім яшчэ нядаўна дзяржаўныя дзеячы тлумілі людзям галовы, сёння дае свае «плённыя вынікі». Але што датычыць нізкай нараджальнасці, дык тут сваю станоўчую ролю адыгрывае фактар аддалення моладзі.**

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**







*КРЫЎДНА*

# НАШУ ПРАЦУ МОЖНА ПАРАЎНАЦЬ З ФРАНТАВОЙ...

Мы выпісваем «Звязду» даўно, чытаем пісьмы пад рубрыкай «Крык душы». Вось і нас, медыкаў ФАПаў, прымусіла напісаць крыўда за тое, што ў нас забіраюць ільготы, заробленыя потам, слязамі, уласным гарбом! Працаваць у Заходняй Беларусі пачалі ў 1951 годзе. З чым мы там сустрэліся? З картачнай сістэмай (выдадуць муку і сам пячы хлеб!), не было электрычнасці, тэлефонаў (адзін на сельсавет), ні садкоў, ні лазні, ні дарог! І адна машына на ўвесь калгас. А жыллё якое — дамы без падлогі, ложкі без матрацаў, бруд, хваробы. Калі экстранна трэба шпіталізаваць хворага з вёскі, што знаходзілася ад райбальніцы за 20 км, адкуль можна было выклікаць «хуткую дапамогу», калі пошта за 7—10 кіламетраў? Хадзілі пешшу, тапталі гразь вясной і ўвосень, каб зрабіць прышчэпкі. А зарплата ўсяго 35 руб. Усе, асабліва гарадскія, не затрымліваліся, збягалі.

Затое потым нам былі льготы на камунальныя паслугі. А цяпер дабраліся да іх і аднялі.

За што? За нашу ненарміраваную працу, за тое, што ў любую хвіліну: калі спіш, недагатаваў абед, не накарміў дзяцей, таму што трэба было ехаць да хворага! Ці ж можна здзекавацца са старых медыкаў ФАПаў? Яны ж у мароз і дождж суправаджалі дзяцей, парадзіх у раённую бальніцу на кані! Сёння цяжка ўявіць такую «карціну». Працу медыкаў ФАПаў можна параўнаць толькі з франтавым жыццём.

**Пенсіянеры-медыкі Крэўскага сельсавета Смаргонскага раёна.**

*(Пад лістом 8 подпісаў.)*

# РОЗНЫ БЫВАЕ АДПАЧЫНАК — ПРЫЕМНЫ І ВЫМУШАНЫ

Паводле даных Гродзенскага абласнога ўпраўлення статыстыкі, у студзені сёлетняга года ў вымушаным адпачынку па прычыне спынення вытворчасці апынулася 18 тысяч чалавек — гэта значыць, хлеба надзённага быў пазбаўлены кожны пяты работнік прамысловасці. 120 прадпрыемстваў Прынёманскага краю (57,5 працэнта ад агульнай колькасці) скарацілі аб'ёмы вытворчасці, вырабіўшы прадукцыі на 267 мільярдаў рублёў менш у параўнанні з тым жа перыядам леташняга года.

Гэту горкую «пілюлю» крыху «падсаладзілі» 88 прадпрыемстваў, якія спрацавалі з плюсам. Скажам, на Гродзенскім заводзе такарных патронаў вытворчасць узрасла ў 4 разы, на Ваўкавыскім мясакамбінаце — у 2,6 раза. У цэлым жа прамысловасць Гродзеншчыны вырабіла прадукцыі ў супастаўных цэнах на 10 працэнтаў менш, чым у студзені 1995 года. Даволі нечакана змінусавала вытворчасць нават віна-гарэлачных вырабаў і піва — да 53,4 працэнта. Напэўна, маразы — не лепшая пара для рэалізацыі піва. А вось для вырабу айчынных аўтобусаў на лідскім заводзе «Нёман» маразы — не перашкода. Перашкода ў грашах, лепш сказаць, у іх адсутнасці. Асноўнаму пакупніку — Міністэрству аўтамабільнага транспарту выдзелены сродкі на набыццё 100 аўтобусаў, аднак іх чакаюць на заводзе толькі ў маі-чэрвені. А пакуль з канвеера замест дванаццаці аўтобусаў у месяц сыходзіць адзін.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ЖЫЦЦЁ Ў ЛЮСТЭРКУ МЯСЦОВАГА ДРУКУ

У горадзе Шчучыне мясцовыя ўлады вырашылі зноў стварыць народныя дружыны, каб навесці парадак на вуліцах горада. Але ж працаваць яны будуць у іншай якасці. Дружыннікі будуць атрымліваць за дзяжурства грошы з разліку 6 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты за кожную гадзіну. На дзяжурстве яны будуць прыкладна 4 гадзіны, па тры чалавекі ў групе. Каб стаць дружыннікам, трэба прайсці атэстацыю не толькі ў працоўным калектыве, але яшчэ і ў аддзеле ўнутраных спраў райвыканкома.

***

Нядаўна ў Гродне арыштаваны нехта Б., дырэктар малога прадпрыемства. Ён абвінавачваецца ў прысваенні з карыслівай мэтай каля 5000 долараў ЗША, якія ён падманам выцягнуў у даверлівых грамадзян.

Аднойчы Б. змясціў у рэкламнай газеце аб'яву, што за 70 долараў гарантуе работу ў любой заходняй краіне. 60 чалавек адгукнуліся на аб'яву, не сумняваючыся ў прыстойнасці і магчымасцях вярбоўшчыка. Пакуль органы міліцыі не зацікавіліся, ці мае ён ліцэнзію на занятак працаўладкаваннем і валютныя аперацыі...

***«Гродзенская праўда».***

Паводле даных Бабруйскага гарадскога цэнтра занятасці, колькасць беспрацоўных вырасла за 1995 год яшчэ на 1000 чалавек і хутка дасягне 4 тысяч. У той жа час цэнтр мае сёння толькі 220 вакансій. Усяго ж за мінулы год на біржу працы звярнуліся па дапамогу 5600 бабруйчан.

***

Даверлівы наш народ. Інакш чым яшчэ можна растлумачыць, што махлярка змагла пераканаць жыхара вёскі Лудчыцы Быхаўскага раёна, што ў нас на Беларусі будзе... грашовая рэформа і што дзяржава збіраецца абменьваць наяўныя грошы насельніцтва ў суадносінах 1 да 2 на сваю карысць. І прапанавала «па блату» свае паслугі: абмяняць яго грошы ў сяброўкі ў банку адзін да аднаго. Атрымаўшы вялікую суму «зайчыкаў», махлярка, натуральна, знікла, а пацярпеўшаму ад празмернай даверлівасці грамадзяніну нічога не заставалася, як звярнуцца па дапамогу ў міліцыю.

***

За 1995 год больш як 16 тыс. бабруйчан затрымліваліся за з'яўленне ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане, 35 працэнтаў з іх пры гэтым хуліганілі. Кожны чацвёрты грамадзянін быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці!

***«Могилевская правда».***

**Падрыхтавала Таццяна КАЗАК.**

# ПІКЕТ У АБАРОНУ АНТОНЧЫКА

22 лютага Беларускі народны фронт арганізаваў пікет з нагоды звальнення аднаго з лідэраў рабочага руху і былога дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргей Антончыка з працы. С. Антончык працаваў рабочым на Мінскім аб'яднанні БЕЛВАР, і быў звольнены па скарачэнню штатаў.

— Справа не ў самім Антончыку, бо шмат якія актывісты БНФ былі выкінуты ў свой час з дзяржаўнай працы, — гаворыць адзін з арганізатараў пікета сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык. — Мы проста не можам зміръцца з гэтым фактам як з пачаткам палявання на ведзьмаў у Беларусі. Антончыка звольнілі нягледзячы на закон, які рэгламентуе працаўладкаванне былых дэпутатаў... Крыўдна, што ў выніку антыкарупцыйнай дзейнасці нашага кіраўніцтва пацярпеў рабочы, а не сапраўдныя карупцыянеры.

Мінская міліцыя спрабавала разагнаць гэты пікет з плакатамі і бела-чырвона-белымі сцягамі, спасылаючыся на тое, што мэр Мінска У. Ярмошын не дазволіў яго правядзенне, і на пастанову пленума Вярхоўнага суда СССР ад 24 красавіка 1989 года. Пікетчыкі даказвалі сваё права, грунтуючыся на тлумачэнні Мінюста Беларусі. У рэшце рэшт, канфлікт з дапамогай журналістаў і намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзя Карпенкі быў урэгуляваны.

Сяргей Антончык паведаміў, што ён не мае надзеі ўладкавацца недзе на дзяржаўную працу, ці нават у камерцыйную фірму з-за ганенняў з боку ўладаў. Ён атрымаў выхадную дапамогу ад завода ў памеры мільёна рублёў на тры месяцы і зазначыў, што хутчэй за ўсё і далей будзе займацца грамадскай дзейнасцю.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## У Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці не выключаюць, што 28 лютага народ можа прыйсці на плошчу Незалежнасці стыхійна

**Пазаўчора сход прадстаўнікоў прафсаюзных камітэтаў прадпрыемстваў радыёэлектронікі і аўтасельгасмаша (як вядома, яны ўтвараюць Асацыяцыю незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі) пацвердзіў сваё ранейшае рашэнне аб намерах правесці 28 лютага ў Мінску масавыя акцыі пратэсту ў абарону правоў працоўных.**

Як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» сакратар Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў Мікалай Герасіменка, нягледзячы на апошнія захады ўрада, праблема цяжкага становішча прамысловых прадпрыемстваў краіны па сутнасці не знікла. Таму прафсаюзы не могуць пагадзіцца з рашэннем Мінгарвыканкома аб забароне правядзення 28 лютага мітынгу-шэсця на сталічнай плошчы Незалежнасці і настойваюць на сваіх ранейшых патрабаваннях. У адваротным выпадку, па словах Мікалая Іванавіча, народ можа прыйсці на галоўную плошчу краіны стыхійна.

Разам з тым у Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў не выключаюць іншых варыянтаў месца правядзення акцый.

У якасці альтэрнатыўных, у прыватнасці, былі названы пляцоўкі каля Палаца спорту альбо каля тэатра оперы і балета. Верагодна, што Мінскі гарвыканкам зноў вернецца да разгляду гэтых пытанняў у наступны панядзелак.

**Сяргей ГРЫБ.**

## У СВЕЦЕ
### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**СУПРАЦОЎНІЦТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

Учора ў адным з паўночна-заходніх гарадоў Босніі адбылася сустрэча прадстаўнікоў камандавання баснійскіх сербаў і прадстаўнікоў камандавання міратворчых сіл НАТО. Такая сустрэча праводзіцца ўпершыню за апошнія два тыдні з-за таго, што сербы адмовіліся працягваць кантакты з камандаваннем міратворчых сіл.

**ПЕРАДВЫБАРНАЕ СТАНОВІШЧА ЕЛЬЦЫНА ЎМАЦАВАЛАСЯ**

Барыс Ельцын як кандыдат у прэзідэнты Расіі атрымаў істотную падтрымку, калі Міжнародны валютны фонд пагадзіўся прадаставіць Расіі крэдыты ў памеры больш як 10 мільярдаў долараў.

**ДАЛЕЙШАЯ ПАЛІТЫКА РАСІІ АД ВЫНІКУ ВЫБАРАЎ НЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ**

Дырэктар ЦРУ Злучаных Штатаў лічыць, што Расія замарудзіць ход рэформаў і будзе менш ахвотна супрацоўнічаць з ЗША незалежна ад выніку прэзідэнцкіх выбараў. На пасяджэнні сенацкай камісіі па кантролю над разведвальнай дзейнасцю ён сказаў, што эканамічныя цяжкасці і крыміналагеннае становішча ў Расіі вымушаюць яе жыхароў сумнявацца ў карысці рэформаў. Кіраўнік разведслужбы падкрэсліў, што ў расійскім грамадстве з'явіліся сілы, якія не хочуць адмовіцца ад выгад дэмакратыі і рыначнай эканомікі.

**«ГРЫНПІС» СУДЗІЦЦА З ЕЛЬЦЫНЫМ**

Вярхоўны суд Расіі пачаў разглядаць справу, звязаную з абвінавачаннямі міжнароднай арганізацыі «Грынпіс» у адрас Барыса Ельцына ў сувязі з яго ўказам, які дазваляе будаўніцтва фабрыкі па перапрацоўцы ядзернага паліва ў Краснаярску. На думку «Грынпіса», указ Ельцына супярэчыць закону Расійскай Федэрацыі аб ахове навакольнага асяроддзя.

**У ФРАНЦЫІ БУДЗЕ АДМЕНЕНА ВАЙСКОВАЯ ПАВІННАСЦЬ**

Прэзідэнт Францыі Жак Шырак заявіў, што на працягу бліжэйшых шасці гадоў у краіне будзе адменена вайсковая павіннасць і будзе здзейснены пераход да прафесіянальнай арміі. У сваім выступленні Шырак сказаў, што толькі прафесіянальная армія можа забяспечыць бяспеку краіны. Па словах французскага прэзідэнта, рэформа арміі будзе азначаць і скарачэнне яе колькасці з 500 да 350 тысяч чалавек.

**УРАД ПОЙДЗЕ Ў АДСТАЎКУ**

Як паведаміў прадстаўнік разведслужбы Злучаных Штатаў, палітычнае і эканамічнае становішча Паўночнай Карэі працягвае пагаршацца. Не выключана магчымасць таго, што ўрад гэтай краіны будзе вымушаны пайсці ў адстаўку.

**ВЯРТАЦЬ КАЛОНУ НЕБЯСПЕЧНА**

Італьянскім паліцэйскім выпадкова ўдалося выратаваць старажытнарымскую калону, якую зламыснікі збіраліся распілаваць на мармуровыя столікі для кафэ. Парфіраваная калона, вышынёй тры метры і вагой у пяць тон, была выкрадзена ў верасні мінулага года з зоны археалагічных раскопак вядомых рымскіх тэрмаў імператара Каракалмы. Рэліквію даставілі ў археалагічны музей. Вяртаць яе ў тэрмы Каракалмы небяспечна, таму што там няма кругласутачнай аховы.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС»***
***слухаў Сяргей ПРОТАС.***

Генерал-маёр Рыгор ФЛЯРКО:

# «У Беларусі будуць свае камандзіры з акадэмічнай адукацыяй»



**Хутка споўніцца год з моманту выдання Указа Прэзідэнта Беларусі аб стварэнні ў рэспубліцы сваёй Ваеннай акадэміі. Яе першаму начальніку генерал-маёру Р. Флярко разам з падначаленымі давялося правесці вялікую арганізацыйную работу, каб ідэя ажыццявілася. У кароткі час былі падрыхтаваны вучэбныя праграмы і планы, вучэбна-матэрыяльная база, сфарміраваны выкладчыцкі састаў, праведзены набор слухачоў і курсантаў. Аб тым, чым жыве навучальная ўстанова сёння,— наша гутарка з начальнікам Ваеннай акадэміі Беларусі Рыгорам Іванавічам ФЛЯРКО.**

**— Яшчэ год назад ішлі спрэчкі аб неабходнасці стварэння ў рэспубліцы акадэміі, а ўжо сёння яна дзейнічае, рыхтуе кадры для малодшых Узброеных сіл. Значыць, апасенні, што мы ўзяліся за непасільную задачу, не апраўдаліся: ёсць у нас і свая вучэбная база, і навуковы патэнцыял...**

— Ідэя стварэння акадэміі ўважліва прапрацоўвалася на самых розных узроўнях, пры гэтым улічваліся як палітычныя, эканамічныя, так і ваенныя фактары. У выніку было прынята правільнае рашэнне: суверэнная рэспубліка, яе Узброеныя Сілы павінны мець нацыянальную сістэму ваеннай адукацыі, гэта значыць уласную Ваенную акадэмію. Ёсць для гэтага неабходныя ўмовы і магчымасці.

Указам Прэзідэнта акадэмія створана на базе каманднага і інжынернага вучылішчаў, якія мелі аснашчаныя па апошняму слову вучэбныя аўдыторыі, класы, багаты інтэлектуальны патэнцыял.

Для Савецкай Арміі нашы вучылішчы рыхтавалі кадры па пяці спецыяльнасцях. Сіламі акадэміі і іншых ваенна-навучальных устаноў рэспублікі мы павінны запоўніць прабел у падрыхтоўцы па 50 спецыяльнасцях. Зараз мы рыхтуем толькі па 38. У 1996 годзе дабавіцца яшчэ каля 10 спецыяльнасцей. На працягу бліжэйшых двух-трох гадоў мы забяспечым прафесіяналамі практычна ўсе роды войск.

Ёсць у нас высокаадукаваны прафесарска-выкладчыцкі састаў: у акадэміі 16 дактароў і 194 кандыдаты навук. Да навучання слухачоў прыцягваем генералаў і афіцэраў цэнтральнага апарату і войскаў, якія закончылі Акадэмію Генеральнага штаба.

Думаем і пра будучыню. Пачата падрыхтоўка выкладчыкаў у ад'юнктуры і дактарантуры, створаных пры акадэміі. Так што апасенні скептыкаў, што мы ўзяліся за непасільную работу, аказаліся беспадстаўнымі. У нас ёсць усё неабходнае для падрыхтоўкі ўласных кадраў з вышэйшай ваеннай адукацыяй.

**— Рыгор Іванавіч, што ўяўляе сабой структура акадэміі, якіх спецыялістаў вы рыхтуеце сёння?**

— У аснову пакладзена сістэма факультэтаў. На камандна-штабным слухачы атрымліваюць акадэмічную адукацыю. А будучыя лейтэнанты займаюцца на наступных факультэтах: агульнавайсковым, ракетных войскаў і артылерыі, сувязі і АСУ, войскаў ППА, інжынерных і аўтамабільных войскаў, спецыяльных, унутраных і пагранічных войскаў, а таксама зноў створаным авіяцыйным. Сёння мы рыхтуем практычна ўсіх спецыялістаў для Узброеных Сіл, за выключэннем некаторых — вузкай накіраванасці.

**— З якімі праблемамі вам давялося сутыкнуцца ў час станаўлення акадэміі?**

— Як і ва ўсякай новай справе, не абыходзіцца без праблем. Галоўная — недахват сродкаў на ўдасканаленне вучэбна-матэрыяльнай базы, на рамонт жылога і казарменнага фонду. Пастаянны галаўны боль — жыллё: у нас каля 800 бескватэрных афіцэраў. А перспектывы атрымання жылля — больш чым туманныя. Тым не менш, камандны і выкладчыцкі састаў акадэміі робіць усё неабходнае для забеспячэння вучэбна-выхаваўчага працэсу, арганізацыі навуковай работы. Акадэмія жыве напружаным, насычаным і цікавым жыццём.

**— Рыгор Іванавіч, як развіваецца ваша супрацоўніцтва ў галіне ваеннай адукацыі з краінамі блізкага і далёкага замежжа? Ці абмяркоўваліся гэтыя пытанні ў час візітаў на Беларусь міністраў абароны Расіі і Украіны Паўла Грачова і Валерыя Шмарава?**

— Вядома, мы зацікаўлены ў супрацоўніцтве, перш за ўсё з Расіяй, Украінай, іншымі краінамі СНД. У ходзе візітаў у нашу краіну міністраў абароны Расіі і Украіны дасягнуты дамоўленасці аб інфармацыйным абмене і супрацоўніцтве ў ваенна-тэхнічнай галіне, аб падрыхтоўцы навукова-педагагічных кадраў, паглыбленні сувязей паміж нашай акадэміяй і ваеннымі ўстановамі Расіі і Украіны. Умацоўваюцца нашы кантакты і з краінамі «далёкага» замежжа. Наладжаны абмен вопытам, методыкамі з ФРГ, сёння некалькі нашых курсантаў навучаюцца ў афіцэрскай школе сухапутных войскаў Бундэсвера, ёсць дамоўленасць, што і іх слухачы будуць вучыцца ў нас. Падпісаны кантракт на навучанне з першага сакавіка ў нашай акадэміі афіцэраў кітайскай арміі.

**— Якім вам бачыцца заўтрашні дзень акадэміі?**

— Ужо сёння мы не толькі рыхтуем кадры, але і развіваем ваенную навуку. Нашы вучоныя завяршылі работу над праектам канцэпцыі ваеннай рэформы дзяржавы. Ваенна-навуковы цэнтр і іншыя навукова-даследчыя падраздзяленні акадэміі будуць і далей займацца вайсковай праблематыкай у інтарэсах дзяржавы, і ўзбраеннасці Узброеных Сіл рэспублікі.

Я перакананы, што ў акадэміі вялікая будучыня.

Магу з упэўненасцю сказаць, што ўзровень падрыхтоўкі нашых выпускнікоў будзе не ніжэйшы, чым у былым СССР, у Расіі, іншых дзяржавах. З часам у Беларусі будуць свае камандзіры палкоў, брыгад, карпусоў з акадэмічнай адукацыяй.

**Гутарыў Генадзь ХУДЗІНСКІ,**
**фота Авініра КАЛОДКА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 23 лютага 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША: Купля | Долар ЗША: Продаж | Нямецкая марка: Купля | Нямецкая марка: Продаж | Расійскі рубель: Купля | Расійскі рубель: Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11900 | 12150 | 7950 | 8200 | 2.35 | 2.55 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11800 | 12100 | 7900 | 8250 | 2.30 | 2.55 | - |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 12000 4820 | 12100 4920 | 8160 | 8300 | 2.45 | 2.52 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк*** | 11900 | 12200 | 7850 | 8200 | 2.35 | 2.55 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11800 | 12100 | 7800 | 8150 | 2.00 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 11900 | 12090 | 7950 | 8200 | 2.38 | 2.50 | 238-610 |
| «Алімп» | 12000 | 12150 | 8000 | 8300 | 2.45 | 2.54 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11900 | 12150 | 7900 | 8100 | 2.40 | 2.50 | 291-646, 067 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7909.76 | | 2.40 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4783 | | 3294.08 | | 100 бел.р. 39.10 | | |

Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі па безнаяўнаму разліку
*** — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваіца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.

Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Агенцтва Граўцова.**

## АЎТАМАБІЛІ ЎГАНЯЮЦЬ АДУСЮЛЬ

**Не зусім надзейным месцам сталі платныя ахоўныя аўтамабільныя стаянкі.**

**Вядома, нельга сказаць, што напады на «гасцініцы» асабістых «аўто» сталі масавай з'явай, але... іншы раз здараецца.**

На выхадзе ночы двое невядомых пранікла на платную стаянку ў г. Баранавічы, пад пагрозай пісталета звязалі вартаўніка, пасля чаго ўгналі новыя «дзевятку» і «Міцубісі». Нягледзячы на тое, што бандыты былі ў масках, вартаўніку ўдалося ўсё ж запомніць прыметы і перадаць іх у міліцыю. Нарад Баранавіцкага ГАУС спрацаваў прафесіянальна.

**Пётр РАБКАВЕЦ,**
**прэс-цэнтр МУС Рэспублікі Беларусь.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Франк, участковы ўрач германскага горада Вуперталь, лічыць, што камяні ў нырках падобныя на... дзіця. Яшчэ мінулым летам, аглядаючы сваю пастаянную пацыентку, 27-гадовую Беціну Зіберт, ён сказаў: «Вам трэба тэрмінова пахудзець. І наогул, у вас камяні ў нырках».

А нядаўна Беціна пасля некалькіх приступаў болю сярод ночы разбудзіла мужа крыкамі: «Франк, я, здаецца, нарадзіла!»

— Цяпер, — гаворыць яна, — я разумею, што маю цяжарнасць не заўважылі з-за празмернай маёй паўнаты. А мой «ныркавы камень» важыць 4 кілаграмы, і мы назвалі яго Жаклін.

**ІТАР-ТАСС**

Пётр К. з Краснадара вырашыў аднойчы дапамагчы бежанцам з Малдавіі. Ён перадаў жанчыне з маленькім дзіцем два слоікі з мінулагоднім варэннем. І толькі праз два дні Пётр зразумеў, які на самай справе падарунак ён зрабіў: у адным са слоікаў было 5 тысяч долараў. Некалькі месяцаў ён хаваў ад валютных зладзеяў валюту ў халадзільніку, спакаваўшы купюры ў слоік з варэннем. А потым пра гэта забыўся. Відаць, гэта была не апошняя «заначка»...

**ЭКСТРА-ПРЭС**

Арнітолагі не прыпомняць выпадку, каб патомства ў птушак з'явілася ў лютым. Нават калі размова ідзе аб гарадскіх вераб'ях. Але птушынае сямейства з Ніжняга Ноўгарада насуперак навукі звіло гняздо і вывела птушанят менавіта на апошнім месяцы зімы. Праўда, адбылося гэта пад зямлёй, а дакладней — на цёплай станцыі «Зарэчная» ніжагародскага метро.

**«Труд»**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.11 | 17.36 | 10.25 |
| Віцебск – | 7.03 | 17.23 | 10.20 |
| Магілёў – | 7.00 | 17.25 | 10.25 |
| Гомель – | 6.54 | 17.25 | 10.31 |
| Гродна – | 7.25 | 17.51 | 10.26 |
| Брэст – | 7.23 | 17.55 | 10.32 |

### МЕСЯЦ

Першая квадра
26 лютага

### ІМЯНІНЫ

Пр. Уласія, Усевалада, Дмітрыя Прылуцкага, Феадоры
К. Богуша, Мацея

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег, мяцеліца, на дарогах снежныя заносы. Па Гомельскай, Брэсцкай, Мінскай абласцях снег моцны. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 3—5, Магілёве, Брэсце — 2—4, Мінску — 1—3 градусы марозу, Гомелі — 0—2 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 25-га на большай частцы тэрыторыі снег, месцамі мяцеліца, па захаду снег моцны; 26-га па паўночна-заходняй палавіне невялікі снег, мокры снег, туман, галалёд. Тэмпература паветра ўначы — 2—7, удзень 25-га — 0—5 градусаў марозу, 26-га — каля нуля.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 24 ЛЮТАГА

У бліжэйшыя суткі чакаецца няўстойлівы характар атмасферных працэсаў. Поле павышанага ціску зменіцца ўплывам перыферыі цыклону, што прывядзе да значных ваганняў асноўных метэаэлементаў. У такіх умовах павышаецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з сардэчна-сасудзістай паталогіяй.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, рабіць прагулкі па свежым паветры, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, уключаючы заспакаяльныя сродкі, і полівітаміны, што ўтрымліваюць вітамін «Е».

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# Піншчына і пінчукі Вячаслава Іл

Вячаслаў Ільянкоў, нягледзячы на малады яшчэ ўзрост (яму 29 гадоў), — чалавек вельмі вядомы ў Пінску і раёне. Апантаны краязнаўствам і фатаграфіяй, ён аб'ездзіў на сваім веласіпедзе ўвесь раён, усе цікавыя мясціны Брэсцкай вобласці, шмат бываў на Гродзеншчыне і Міншчыне. У яго вялікай калекцыі фотаздымкаў, прывезеных з вандровак, адлюстраваны ўсе больш-менш значныя помнікі гісторыі і архітэктуры Палесся, прычым каля двух дзесяткаў розных маёнткаў, цэркваў, касцёлаў з іх такія, што не апісаны ні ў якіх сучасных каталогах і зводах помнікаў ці нават лічацца страчанымі. Напрыклад, капліца ў вёсцы Бортнікі Баранавіцкага раёна, руіны царквы ў вёсцы Некрашэвічы Карэліцкага... А ў старой разваленай царкве ў вёсцы Мярацічы каля знакамітага возера Свіцязь ён знайшоў старажытнага ідала ў форме крыжа.

Увогуле, калі агледзіш усе здымкі В. Ільянкова з разбуранымі гістарычнымі мясцінамі, маёнткамі і інш., складваецца вельмі непрыемнае ўражанне з нагоды нашай абыякавасці да гісторыі і прыгажосці.

— Фатаграфія для мяне як запісная кніжка, візуальны дадатак да сабраных матэрыялаў. Я стаўлюся да яе як да дакумента. Дакументы гэтыя вельмі каштоўныя. Праз пэўны час яны могуць застацца адзіным сведчаннем таго, што было ў нас і што мы страцілі... — гаворыць В. Ільянкоў.

У касцёле вёскі Варонча Карэліцкага раёна, які летась быў адноўлены, некалькі здымкаў Вячаслава ў рамачцы павесілі на пачэсным месцы: на іх адлюстравана, якім быў гэты касцёл да рэстаўрацыі, як ішло яго аднаўленне і якім ён стаў падчас яго ўрачыстага асвячэння.

Вячаслаў Ільянкоў працуе ў пінскай гарадской газеце «Пінскі веснік», публікуе на яе старонках свае краязнаўчыя нататкі і здымкі, выступае з лекцыямі, дзеліцца сваімі ведамі аб гісторыі роднай зямлі, яе лепшых сынах. Любоў да краязнаўства Вячаславу Ільянкову прывіў спецыяліст па ахове прыроды Аляксей Мікалаевіч Дуброўскі, з якім Вячаслаў і рабіў свае першыя веласіпедныя вандроўкі. Цяпер у В. Ільянкова ўжо ёсць свае паслядоўнікі і кампаньёны на час падарожжаў: Эдуард Злобін і Віктар Кісель, якія вельмі захапіліся гэтай рамантычнай справай. Ды і старажытны Пінск, багаты на гісторыю і помнікі, ягоныя ваколіцы як бы заахвочваюць В. Ільянкова і яго сяброў да краязнаўства. Добрай падтрымкай Вячаславу і ягоная маці Ніна Уладзіміраўна, якая таксама вельмі захапляецца гісторыяй свайго краю. Нягледзячы на тое, што Ніна Уладзіміраўна паходзіць з вядомага бранскага купецкага роду Каросціных, яна ўступіла ў пінскае аддзяленне Саюза палякаў, актыўна ў ім працуе і лічыць, што робіць гэтым самым беларускую справу: калі ўсе меншасці будуць сябе добра адчуваць у нашай краіне, то будзе добра і Беларусі, — справядліва мяркуе яна. Яна заўсёды падкрэслівае свой пінскі патрыятызм, свой гонар за гэты край. Так што Вячаславу Ільянкову было што пераймаць ад маці.

— Я стараюся, каб мае паездкі былі звязаны з нейкімі падзеямі ў гісторыі нашага краю, — гаворыць В. Ільянкоў. — Вандрую, напрыклад, па мясцінах, звязаных з жыццём Э. Ажэшкі, дарогамі паўстанцаў 1863 года пад кіраўніцтвам Р. Траўгута, шляхам апошняй паездкі на Піншчыну караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага... Мінулым летам мы на веласіпедах ездзілі па Навагрудчыне, наступным — мяркуем праплыць увесь Нёман на плытах...

Падчас сваіх шматлікіх вандровак Вячаслаў з таварышамі не аднойчы трапляў у розныя непрадбачаныя сітуацыі. То мясцовыя жыхары прымуць за шпіёнаў, то ўкраінскія памежнікі пачнуць разбірацца, чаго гэта яны ляснымі сцежкамі ездзяць. Пазалетась іх затрымалі вайскоўцы на вядомым Мерлінскім вайсковым палігоне на Століншчыне, пры гэтым праз некалькі дзён у тым месцы павінны былі пачацца стрэльбы. А летась позняй восенню Вячаслаў з калегам ехалі ў вёску Асавец, карыстаючыся старой польскай картай, і трапілі на вайсковы аэрадром. Там жа і заначавалі пад гул самалётаў і верталётаў. Гэта адбылося пасля надзвычайнага здарэння са збітым у гэтых мясцінах паветраным шарам з двума амерыканскімі спартсменамі...

Іншая важная тэма для В. Ільянкова — гэта людзі Піншчыны, пераважна вясковыя, якія захоўваюць у сваёй памяці і гісторыю, і звычаі роднага краю. Такім чынам, Вячаслаў стаў крыху і этнографам... Акрамя гэтых людзей В. Ільянкоў шмат сустракаецца з тымі, хто ў часы ваенных ліхалеццяў быў вымушаны пакінуць родны край і цяпер, праз паўстагоддзя, ганімы настальгіяй, прагне наведаць дзіцячыя мясціны і магілы продкаў. Вячаслаў дапамагае ім у іх пошуках. Гадоў пяць ён трымае сувязь з Тэрэзай Скірмунт і іншымі прадстаўнікамі знакамітага беларускага магнацкага роду, які пяць стагоддзяў панаваў на Палессі. Цяпер Скірмунты прыязджаюць на месцы сваіх былых маёнткаў як госці і з болем бачаць разбураныя магілы продкаў... Разам са Скірмунтамі В. Ільянкоў знайшоў магілу і паставіў крыж на месцы пахавання вядомага палітычнага дзеяча БНР Рамана Скірмунта, яго сястры Алены і мужа апошняй, якія былі забіты ў 1939-м...

Не адзін артыкул напісаў Вячаслаў пра гэты знакаміты род, пра яго трагедыю. Яго пяру належыць і артыкул пра Скірмунтаў у энцыклапедыі «Беларусь»...

Акрамя таго, В. Ільянкоў кансультуе здымачныя групы з Беларусі і Польшчы, якія здымаюць тут фільмы, сам піша сцэнарыі, разам з калегамі па ранейшым месцы працы (інстытут меліярацыі ў Пінску) ён арганізоўвае штогадовыя калядкі ў адной з закінутых вёсак Піншчыны — Церабень, чаму мясцовыя жыхары вельмі рады. І галоўнае — ён ездзіць на сваім веласіпедзе і фатаграфуе родны край. На жаль, добрай тэхнікі (турысцкага веласіпеда і якаснага фотаапарата) ён усё яшчэ не мае. Адзін бізнесмен абяцаў падарыць зручны веласіпед, які б вытрымліваў нагрузкі шматдзённых пераходаў па дрэнных дарогах, — ды так і забыў.

Але ад таго, што Вячаслаў працуе на аматарскім узроўні, плён яго работы не становіцца меншым. Аб гэтым можна меркаваць па прадстаўленай серыі здымкаў Вячаслава Ільянкова.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



**Вёска Наваселле Пінскага раёна.**



**Занядбаная капліца — адзінае, што засталося ад сядзібы Скірмунтаў у вёсцы М ладава Іванаўскага раёна.**



**Сум. Жыхарка вёскі Ацвержычы.**



**Пінскі краязнавец Вячаслаў Ільянкоў.**



**Скрыпач Мікалай Бут-Гусаім з вёскі Бераж-цы Пінскага раёна.**



**Жыхарка вёскі Маладзельчыцы на Піншчыне.**



**Рака Ясельда.**

# ...льянкова



...ёсцы Мо-

Вёска Нігавішча Зарачнянскага раёна — ужо Украіна.



У вёсцы Курадава, Пінскі раён.



Ганчар Іван Лічэўскі з вёскі Гарадная Столінскага раёна.

# ОДА прыгараднаму аўтобусу



ШТО НІ КАЖЫЦЕ, а прыгарадны аўтобус — гэта хай сабе і нідзе афіцыйна не адзначаны, але ўсё ж асобны і абсалютна самастойны род, тып, від ці яшчэ як (думаю, кожная з катэгорый тут будзе дарэчы) грамадскага транспарту. Упэўнена, што кожны, хто хаця б раз праехаў на прыгарадным аўтобусе, пры ўмове наяўнасці ў яго хоць невялікай долі назіральнасці, са мной пагодзіцца.

Лёс аўтара гэтага матэрыялу склаўся так, што да месца, дзе стаіць родная хата, дзе заўжды чакае маці і куды заўсёды хочацца ўцячы ад трывог і клопатаў, — да невялікай вёскі на Міншчыне, можна дабрацца са сталіцы толькі двума спосабамі. Першы — даехаць на гарадскім транспарце да Кунцаўшчыны, цвёрда стаць нагамі на Ракаўскую шашу і, жвава пераастаўляючы іх, узяць курс на захад. Але паколькі ісці далекавата, а выхадныя дні толькі два і рызыкуеш тым, што адзін з іх правядзеш у прыемным падарожжы, даводзіцца выбіраць другі, апошні даступны спосаб дабрацца да бацькоўскай хаты (цікаўным паведамляю, што асабістага аўтамабіля не маю). А другі даступны спосаб — гэта, як вы ўжо, напэўна, здагадаліся, — ён, дзіця Львоўскага аўтазавода, з пукатым лабавым шклом, падзеленым на два, з жоўтай, чырвонай ці сіняй двайной паласой на баку, з бруднымі паркалёвымі фіранкамі незразумелага колеру на вокнах, з вялікім календаром трохгадовай даўнасці, які аддзяляе шкляную кабіну вадзіцеля ад салона, з едкавата-салодкім пахам перапрацаванага бензіну і няспраўнага счаплення,— карацей, родны прыгарадны аўтобус, які стаў для многіх, і для мяне таксама, неад'емнай часткай жыцця. Таму тое, што прачытаеце ніжэй, не проста назіранне збоку, а своеасаблівае прысвячэнне шматпакутнаму транспартнаму сродку.

НЕ, ПРЫГАРАДНЫ АЎТОБУС зусім не падобны ні да жоўтых ці белых «Ікарусаў», якія бесклапотна бегаюць па гарадскіх вуліцах, злучаючы адзін мікраараён з другім, ні тым больш да сваіх прывязаных да электраправадоў сваякоў — тралейбусаў і трамваяў. Ён — больш паважаны, яго больш чакаюць, ён... Скажыце, бачылі вы калі-небудзь разгублены твар чалавека, які спазніўся, скажам, на тралейбус? Асабіста я — не. Няўдалы пасажыр з прыкрасцю адскоквае ад дзвярэй, што закрыліся перад носам, вяртаецца на прыпынак і раўнадушна чакае наступнага тралейбуса, які прыходзіць праз пяць хвілін. А скажыце, можа, вам даводзілася бачыць на аўтавакзале ці каля яго чалавека, на твары якога такі выраз... Ну, нібыта ён нешта згубіў, не тое што дарагое, але вельмі патрэбнае. І заплакаць хочацца па згубе, і адчуваеш, што не такая яна ўжо каштоўная, каб па ёй плакаць... Калі пабачыце такога чалавека каля аўтастанцыі — можаце быць упэўнены: ён спазніўся на прыгарадны аўтобус. Ці не здолеў у яго ўлезці.

Сапраўды, спазняюцца на аўтобус людзі рэдка. Ведаюць расклад руху, разумеюць, што калі не паедзеш цяпер, то сёння не паедзеш наогул. Хіба што самыя рассеяныя. А вось не ўлезці ў выхадны ці перадвыхадны дзень (асабліва ў пятніцу вечарам ці ў суботу раніцай) вельмі проста, нават калі ты прыйдзеш за гадзіну да адпраўлення.

ПЕРШ ЗА ЎСЁ ТРЭБА ЎЗЯЦЬ БІЛЕТ, а гэта — справа не з лёгкіх. Без яго ж шанцы праз дзве-тры гадзіны пакаштаваць маміных бліноў роўныя амаль нулю... Раней на сталічным аўтавакзале «Цэнтральны» у невялікай цаглянай будцы, што каля галоўнага будынка, працавалі толькі чатыры касы. Кожная з іх выдавала білеты толькі па пэўных напрамках... І вось да аднаго акенца ў суботу з самага ранку выстройваюцца ў даўжэзную чаргу патэнцыяльныя спадарожнікі. Час ад часу чарга пытаецца ў шчаслівўца, які толькі што ўзяў білет, якое яму дасталося месца. Кожны вылічвае, ці хопіць на яго. Калі пачынаюцца білеты без месца, чарга пачынае хвалявацца. Рызыка застацца без магічнага квітка ўзрастае. Пачынаюцца спрэчкі, нервовыя погляды на гадзіннік, разборкі тыпу «вас тут не стаяла!» Усміхаюцца твары «абілечаных» пасажыраў. Цень трывогі кладзецца на твары тых, хто чакае. І вось ужо, здаецца, пашанцуе ўсім, засталося чалавек шэсць... Але тут касірка з раўнадушным выглядам выстаўляе таблічку «Білетаў на такі-вось маршрут няма» і лянiва завешвае акенца...

Цяпер на «Цэнтральным» камп'ютэрная сістэма выдачы білетаў. Можна ўзяць білет на патрэбны табе маршрут у любой з васьмі кас. Але ад гэтага не лягчэй. Заўсёды ў выхадны дзень застаюцца тыя шэсць—дзесяць чалавек, што не паспелі, не атрымалі... Аўтобус жа не гумовы...

Але няўдачнікі не спяшаюца пакідаць вакзал. Бо яны, навучаныя вопытам, ведаюць: мець білет — яшчэ не значыць паехаць. І, адпаведна, — наадварот.

ПАДЫХОДЗІЦЬ АЎТОБУС, пачынаецца пасадка. Я даўно здзіўляюся, чаму кінарэжысёры не выкарыстоўваюць гэту сцэну як займальную «масоўку». Натоўп, што сабраўся на пляцоўцы, прама на вачах памяншаецца і памяншаецца, хаця салон яшчэ пусты. Натоўп проста сціскаецца ля запаветных пярэдніх дзвярэй, дзе ўжо ўзвышаецца няўмольны кантралёр ці крыху менш няўмольны вадзіцель, які «мае права праверкі білетаў». Бедныя модныя спаднічкі і высокія абцасікі, прыгожыя прычоскі і бліскучыя гузікі! Бедныя коцікі і сабачкі, якіх вязуць у кошыках і ў сумках! Бедныя кветкі ў прыгожых абгортках і тарты ў кардонных каробках, прызначаныя для сямейных святаў! Вам застаецца толькі спадзявацца, што адбудзецца цуд і вы разам са сваім пакамечаным і ўзрушаным гаспадаром трапіце нарэшце ў салон без значных фізічных пашкоджанняў...

ПА КАМАНДЗЕ КАНТРАЛЁРА: «Упускаю толькі з білетамі!» натоўп пачынае лезці ў аўтобус. Амаль заўсёды ў некага з тых, хто ў першых радах, білета не аказваецца, ён застаўся ў жонкі, якая знаходзіцца недзе ў ар'ергардзе. Амаль заўсёды з'яўляецца гарластая жанчына з вялізнай торбай, з якой высоўваюцца батоны. Яна крычыць невядома на каго: «Чаго прэшся? Усе залезем!»— а сама рукамі, нагамі, сумкай з батонамі ўпэўнена пракладае сабе сцежку да запаветных прыступак і, нарэшце, убіўшыся ў салон, спыняецца пасярод праходу, не даючы прайсці іншым, цяжка дыхаючы і агрызаючыся на заўвагі.

Амаль заўсёды застаецца на вуліцы частка людзей, прычым з білетамі таксама. Вадзіцель выходзіць да іх і пачынае ўпускаць праз сваю кабіну. Пасля, акінуўшы салон крытычным поглядам, пачынае прадаваць білеты тым, каму не пашчасціла ў касе. Бывае, прадае ўсім, бывае, толькі тым, хто стаіць бліжэй. Зноў упускае ўсіх праз кабіну. Амаль заўсёды нехта застаецца сядзець на шырокай яе панелі, не здолеўшы пералезці ў салон. Амаль заўсёды гэты «нехта» (дзіўнае супадзенне, або сапраўды выпадковасць, на свае вочы колькі разоў бачыла) — маладая дзяўчына ў кароткай спадніцы.

Амаль заўсёды сярод тых, хто застаўся на пляцоўцы, знаходзіцца малады спрытны дзяцюк, які з жартамі пачынае браць штурмам дзверы аўтобуса. Ці то жарты, ці то моц яго напору прымушае пасажыраў, якіх і без таго — што селядцоў у бочцы, пасунуцца яшчэ на аднаго чалавека і даць залезці жартаўніку, які тут жа займае адваяванае месца пад дахам аўтобуса, на прыступцы.

І ВОСЬ, НАРЭШЦЕ, доўгачаканы момант (звычайна ён прыходзіць хвілін на пятнаццаць пазней, чым адзначана ў раскладзе), дзверы зачыняюцца, і прыгарадны транспарт, равучы ад натугі, бярэ курс на захад. Шчаслівўцы едуць у вёску, тыя ж, каму не пашанцавала, з разгубленымі тварамі крочаць да кас, спадзеючыся ўзяць білет на наступны рэйс (калі ён, вядома, ёсць) ці вяртаюцца да гарадскога жытла, у думках абяцаючы сабе на наступным тыдні ўзяць білет за тры дні, хай сабе і пераплаціўшы, і з жалем успамінаючы пах вясковай мачанкі ці смажанай свежаніны...

Аўтобус едзе па шашы. Ужо сціхлі крыкі кшталту «ой, мая рука!» ці «ай, маё вуха!». Усе ўтрэсліся, супакоіліся, перапоўненыя пачуццём гордай радасці, што пераадолелі ўсе перашкоды, што выйшлі пераможцамі і вось — імчаць да мэты (звычайна скорасць «імчання» дасягае сорак кіламетраў у гадзіну). Са здзіўленнем раптам усе заўважаюць, што ў салоне неяк пасвабаднела, што ўлезлі б яшчэ і ўсе тыя небаракі, якія засталіся ў Мінску. Пачынаюць выходзіць пасажыры. З кожным прыпынкам дыхаецца ўсё вальней. Тых, хто стаіць, амаль не застаецца. Усе супакоіліся і разняволіліся... Раптам... Раптам аўтобус спыняецца ля невялікай вёскі, але ніхто не збіраецца з яго выходзіць. Вадзіцель чакае з хвіліну, потым з кабіны чуецца яго голас: «Хто выходзіць у Белякове?». Салон адказвае маўчаннем. Вадзіцель падымаецца з месца, строгім позіркам акідвае салон і паўтарае грозным голасам: «Хто браў білет да Белякова?». Ён мае рацыю: у яго ведамасці ясна пазначаны кошт білета да гэтай вёскі. Выходзіць, чалавек, які аплаціў гэты адрэзак шляху і не выйшаў, паедзе далей «зайцам». Звычайна «заяц» не прызнаецца сам, спадзеючыся, што вадзіцель паленуецца правяраць білеты і паедзе далей. Але здараецца, што яго спадзяванні не спраўджваюцца, і тады даводзіцца або даплачваць, або дыбаць да сваёй мэты пешшу (усё залежыць ад настрою вадзіцеля і ад надвор'я).

Чым менш застаецца прыпынкаў, тым часцей чуюцца агульная размова, жарты. У аўтобусе застаюцца аднавяскоўцы ці суседзі. Усе адзін аднаго ведаюць, распытваюць і расказваюць аб жыцці, дзецях, справах. Калі ж перад канцавым прыпынкам у аўтобусе акажацца незнаёмы твар, усе насцярожана кідаюць позіркі на чужынца, а потым, ужо прыехаўшы, праводзяць яго вачыма: у які бок, у чый двор пойдзе?

ПАЧАСТАВАЎШЫСЯ МАЧАНКАЙ з блінамі, нахапаўшы ў лёгкія свежага вясковага паветра, а ў сумкі — сяго-таго з «дароў зямлі», зноў ідуць гараджане на прыпынак, зноў чакаюць прыгараднага аўтобуса. Ужо не хвалююцца наконт таго, улезуць ці не. (Хай пра гэта клапоцяцца тыя, хто бліжэй да горада.) Хваляванне цяпер іншага кшталту: прыйдзе ці не? І калі чуецца з-за гары знаёмы гул, і з'яўляецца ён — з пукатым пярэднім шклом, з паласамі на баках,— напружанне з твараў знікае і салон запаўняецца вясёлымі пасажырамі. Усе — знаёмыя, усе — суседзі. Жарты, смех. Бабуля, якая хоча даехаць да суседняй вёскі, уголас зайздросціць тым, хто «едзе ў горад, марожанае есці». Потым пачынае запрашаць суседа па месцы, пажылога мужчыну, да сябе ў госці, перасыпаючы запрашэнне салёнымі жартамі, ад якіх увесь аўтобус качаецца ад смеху... Малады хлопец, які вяртаецца з хрэсьбінаў добра падпіўшы, раптам з задняга сядзення заводзіць голасам, якраз як у вядомага спевака: «Колодец, колодец...» Усе здзіўлена азіраюцца, а пасля зноў — хваля рогату. Весела, хораша! А пасля, чым бліжэй да горада, тым цішэй. Заходзяць новыя людзі — незнаёмыя, далёкія. І ўжо нічога не чуваць, толькі ціхая гаворка некаторых пасажыраў, ды галасы на прыпынках ля дзвярэй: «Пасуньцеся яшчэ на аднаго чалавека...»

Я не вельмі люблю ездзіць у аўтобусе. Хаця б таму, што ніколі не магу з'явіцца ў роднай вёсцы «ва ўсёй красе» — ведаючы, што чакае маю модную прычоску, вузкую спадніцу і высокія абцасы, прадбачліва пакідаю іх у горадзе... Але як хораша зімнім надвячоркам садзіцца ў цёплы паўцёмны аўтобус разам з аднавяскоўцамі, смяяцца разам з імі, адчуваць сябе часткай часовай, але такой моцнай супольнасці...

... ПАКУЛЬ ШТО НЯМА ў мяне свайго аўтамабіля... Можа, і не будзе ніколі. Таму — оду спяваю табе, прыгарадны аўтобус!

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ

# Французскі мастак з беларускіх Смілавіч

ПРА ЖЫЦЦЁ і творчасць гэтага чалавека, чыё імя стаіць побач з такімі вялікімі мастакамі нашага стагоддзя, як Пікасо, Мадзільяні і Шагал, шырокаму колу беларускіх чытачоў да нядаўняга часу практычна нічога не было вядома. А між тым суайчыннікі лічылі Хаіма Суціна зоркай першай велічыні. Знаўца еўрапейскага мастацтва Канстанцін Каровін называў яго адным з самых выдатных мастакоў свету нароўні з вядомымі Манэ, Сезанам, Рэнуарам. Цяпер карціны Суціна ўпрыгожваюць лепшыя прыватныя і дзяржаўныя галерэі Парыжа, Вашынгтона, Нью-Йорка, Чыкага, Філадэльфіі. А вось на радзіме жывапісца не захавалася ніводнага твора...

***

Хаім Суцін нарадзіўся ў Смілавічах у 1894 годзе (па некаторых даных — у 1893 годзе). Ён быў дзесятым дзіцем у сям'і яўрэйскага краўца, а пасля яго нарадзіўся апошні, адзінаццаты. Дом Суціных знаходзіўся літаральна ў двух кроках ад старой цэнтральнай вуліцы пасёлка. Людзі, якім давялося бываць у ім, сведчаць, што галава шматлікага сямейства быў жаночым краўцом. Разлічваліся з ім за працу ў асноўным харчамі — хто чым мог у той цяжкі час. Жабрацтвам, голадам, прыніжэннямі тады нікога нельга было здзівіць. Дзіўным было другое: дзесяты сын мястэчковага краўца вырашыў стаць мастаком. Бацька хацеў зрабіць з яго рамесніка або равіна, а ён пісаў на сценах вугалем, цягаў у маці кухонныя прылады, каб прадаць іх і на атрыманыя грошы набыць каляровыя алоўкі. Два старэйшыя браты смяяліся і бязлітасна білі яго, прыгаворваючы: «Яўрэй не павінен займацца жывапісам». Аднойчы, як прыгадвае пляменніца Суціна, мінчанка Ніна Аляксандраўна Ферапонтава (якая, дарэчы, выпадкова адгукнулася на адну з ранейшых публікацый аб мастаку), Хаіма збілі надзвычай жорстка, і той збег з дому. Тыдзень яго нават ніхто не шукаў... А падставай да гэтага здарэння стала тое, што Суцін намаляваў свайго жывога бацьку... нябожчыкам у труне. Наогул жа, як расказала Ніна Аляксандраўна, нават бацькі ставіліся да свайго сына даволі непрыязна, лічачы яго як не з гэтага свету.

У рэшце рэшт, юнака ўладкавалі ў Мінск вучнем фатографа-рэтушора. Тут ён і дэбютаваў як партрэтыст. Суцін намаляваў партрэт равіна, а сын апошняга прыйшоў у шаленства ад таго, што была парушана рэлігійная забарона на адлюстраванне жывой істоты, і збіў пачынаючага мастака да паўсмерці. Юнак трапіў у бальніцу, а крыўдзіцеля прымусілі заплаціць сорак пяць рублёў за нанесеныя пабоі. Частку сумы бацька аддаў пацярпеўшаму. На гэтыя грошы (а гэта быў 1910 год) ён і паехаў у Вільню паступаць у мастацкую школу. А праз два гады разам з сябрам на сродкі мясцовага мецэната, які заўважыў талент абодвух юнакоў, Суцін прыязджае ў Парыж. І адразу з цягніка накіроўваецца... у Луўр.

***

Потым былі гады, напоўненыя голадам, часовай чарнавой працай за кавалак хлеба, пастаянным пошукам жылля. Нарэшце Суцін пераехаў у «Вулей» — дом на ўскраіне Парыжа, дзе жылі такія ж, як ён, маладыя мастакі, акцёры. Вось адзін з успамінаў аб мастаку таго часу: «Многія лічылі Суціна дзікуном, амаль дэгенератам, трымаліся ад яго далей, нават палохаліся. Калі ён, апрануўшы на сябе абы-што, збялелы, наскрозь прапахлы алейнай фарбай і шкіпінарам, з прыліплай да потнага лба пасмай валасоў і змрочна засяроджаным поглядам біўся ва ўсе дзверы «Вулля», спадзеючыся пажывіцца аб'едкамі, ад яго, здаралася, старанна зачыняліся. Але на другі дзень ён мог з годнасцю адмовіцца ад добраахвотна прапанаваных кім-небудзь з таварышаў некалькіх су, у якіх ён меў вялікую патрэбу. Ён не надта часта мыў рукі і не заўсёды ўмеў «цывілізавана» паводзіць сябе за сталом, але ён любіў глядзець на зоркі, прападаў у Луўры і Люксембургскім музеі. Захапляўся Бальзакам, а лісты пісаў па-дзіцячы няпісьменна».



«... Калі вулічныя хлапчукі або мясцовыя кансьержкі, якія чамусьці яго праследавалі і дражнілі «мазілам», спрабавалі зазірнуць у яго палотны, ён сутаргава прыціскаў іх, як прыйдзецца, да грудзей, да твару, пэцкаючыся фарбамі і ледзь не плачучы ад бяссільнай раз'юшанасці, або раптам пачынаў таптаць сваю працу нагамі».

У гэты час Суцін знаёміцца з Мадзільяні, Пікасо і іншымі прадстаўнікамі так званай парыжскай школы. Гэта была не мастацкая плынь, увасобленая ў жывапісе, графіцы, скульптуры, а лірычны настрой думак цэлай эпохі, акантаванай дзвюма сусветнымі войнамі. Мастакі парыжскай школы мелі цягу да розных напрамкаў, але ні ў адзін не ўпісаліся, ні ў адзін не ўмясціліся.

«Суціну было ўсяго дзевятнаццаць гадоў, калі яны пазнаёміліся, — Мадзільяні быў на цэлых дзесяць гадоў за яго старэйшы, але ні гэта, ні яшчэ большая розніца ва ўзроўні культуры, ні процілегласць тэмпераментаў, словам, нічога не перашкодзіла іх збліжэнню. І не толькі таму, што абодва яны належалі да самых абяздоленых, да самых безнадзейна адвергнутых сярод паўжабрацкай брацііі «Вулля», але галоўным чынам таму, што здолелі разгледзець адзін у адным і сутнасць таленту, і сутнасць душы — разгледзець, зразумець і прыняць. Мадзільяні лічыў Суціна вялікім мастаком і цвёрда верыў у яго будучыню. Пакуль жа ён дзяліўся з ім апошнім франкам, турбаваўся аб ім, вучыў карыстацца насоўкай і чысціць пазногці. Чытаў яму вершы на памяць...»

А вось што пісаў аб гэтым перыядзе жыцця мастака Ілья Эрэнбург у сваёй кніжцы «Людзі, гады, жыццё»: «У Суціна быў выгляд напужаны і санлівы і, здавалася, яго толькі прабудзілі, ён не паспеў памыцца, пагаліцца; у яго былі вочы зацкаванага звера, магчыма, з голаду. Ніхто на яго не звяртаў увагі. Ці можна было ўявіць, што аб работах гэтага кволага падлетка, ураджэнца мястэчка Смілавічы, будуць марыць музеі ўсяго свету?..»

Суцін не шукаў славы, не любіў аддаваць свае карціны на выставы. Ён мог пакінуць напісаныя рэчы ў кватэры сяброў, да якіх прыходзіў у госці, і больш ніколі пра іх не ўспамінаць. Менавіта ў гэты час у мастака з'яўляецца вядомасць і пэўны дабрабыт. Адзін з сяброў паказаў карціны Суціна амерыканскаму калекцыянеру, і той, прыйшоўшы ад іх у захапленне, набыў адразу цэлую сотню. Але грошы быццам перашкаджалі маладому майстру. Яму здавалася, што, калі набудзе нерухомасць, — больш не будзе разумець тых абяздоленых, побач з якімі жыў папярэднія гады і пасланцам якіх лічыў сябе ў мастацтве.

***

Па ўспамінах суайчыннікаў, палотны Суціна, якія датуюцца перыядам яго жыцця ў «Вуллі», былі «дзіўнымі і страшнымі». Самы мірны пейзаж станавіўся тут на дыбкі, рушыўся і ўздымаўся, сутыкаючы адзін з адным дрэвы і камяні, дамы і платы, як пры землятрусе. Нацюрморты пераставалі быць «мёртвай натурай» і, быццам залітыя крывёю, крычалі ад болю... Калі ж Суцін пісаў партрэты дзяцей, яны выглядалі на яго палотнах умудронымі жыццём, прыгнечанымі яго горкім вопытам, старымі, якім бы насычаным і паўнакроўным ні быў пры гэтым сам жывапіс.

Пазней, з гадамі, гэты жорсткі талент памякчэў: у некаторых пейзажах, у адлюстраванні дзяцей і мацярынства чалавечнасць праяўлялася без сутаргаў. Таму нездарма ў 1928 годзе Луначарскі лічыў работы Суціна адным з «самых цікавых з сучасных накірункаў» у мастацтве Францыі. У гэтыя часы героямі палотнаў мастака становяцца рэстаранныя слугі, сяляне, студэнты: «Пірожнік з чырвонай хусткай», «Пірожнік у белым каўпаку»



(1922—1923), «Пасыльны ў «Максіма» (канец 20 —пачатак 30-х гадоў), «Кухарка» (1936 год).

У адрозненне ад Пікасо, які маляваў, спадзеючыся на сваё ўяўленне і зрокавую памяць, Шагала, што маляваў Віцебск, у якім ужо не быў шмат гадоў, Суцін не мог абысціся без натуры. Убачыўшы мадэль, ён мог пайсці на ўсё, каб прымусіць яе пазіраваць: упрошваў, маліў, пагражаў, плаціў грошы. Магчыма, знаўцы творчасці Суціна не пагодзяцца са мной, але мне, таксама ўраджэнцу Смілавіч, усё ж бачыцца ў яго карцінах нешта да болю знаёмае: у іншаземных пейзажах, творах людзей. Мо Суцін, жывучы на чужой зямлі, усё ж прыгадваў мясціны, дзе ён калісьці нарадзіўся і рос?

Нават значна пазней, ужо маючы сродкі, Суцін працягваў весці аскетычны лад жыцця. Увесь час знаходзячыся ў акружэнні жанчын, ён так і не ажаніўся (па другой версіі яго шлюб быў незаконным і вельмі няўдалым: на ім проста нажыліся). Праявілася пастаянная нястача ежы ў маладосці: мастака мучыла язва страўніка. Але нават хворы ён хацеў заставацца побач з персанажамі сваіх карцін.

Калі пачынаецца другая сусветная вайна, Суцін спрабуе дабравольцам пайсці ў войска, але па стану здароўя і ўзросту яго камісуюць. Амерыканцы прапаноўваюць яму перабрацца ў ЗША, але ён адмаўляецца і застаецца ў акупіраванай Францыі, пераязджаючы з месца на месца. У гэты час яго хвароба абвастраецца. Аперацыя, зробленая ў Парыжы, была запозненай. 8 жніўня 1943 года Суцін памёр.

***

На Беларусі да гэтага часу амаль нічога невядома пра лёс яго шматлікай сям'і. Па словах пляменніцы Суціна Ніны Аляксандраўны Ферапонтавай, якая нарадзілася ў 1930 годзе, родныя мастака жылі ў доме бацькоў у Смілавічах да пачатку вайны. Некалькі братоў Хаіма мелі хаты побач, дзве сястры яшчэ на пачатку стагоддзя з'ехалі ў Амерыку. Маці Ніны Аляксандраўны памерла ў 1936 годзе ва ўзросце 28 гадоў.

Немцы бамбілі Смілавічы ледзь не ў першы дзень вайны. Амаль адразу частка Суціных рушыла ў эвакуацыю. Пад Шкловам у лесе цыганы пакралі коней — прыйшлося ехаць цягніком. Тамбоўская вобласць, потым Кіргізія... У родныя Смілавічы вярнуліся адразу пасля вайны. Высветлілася, што хату Суціных падчас акупацыі немцы знеслі і прадалі ў Смалявічы. Раскідала па свеце і вялікую сям'ю, ды так, што ўсе сувязі абарваліся. Гадоў мо з трыццаць таму, прыгадвае Ніна Аляксандраўна, да яе прыйшоў ліст ад Эрэнбурга (усяго іх было тры, але, на жаль, яны не захаваліся), дзе гаворка ішла аб спадчыне мастака.

Яшчэ раз грошы сям'я Ферапонтавых атрымала прыкладна тры гады назад. Па чутках, нейкая радня жыве зараз і ў Маскве, але ўдакладніць гэта не ўдалося. Што тычыцца духоўнай спадчыны Майстра... Радзіма Суціна карыстаецца пераважна шыкоўна выдадзенымі замежнымі каталогамі, у працах жа айчынных навукоўцаў звычайна пераказваюцца ўжо добра вядомыя факты з жыцця мастака.

Да гэтага часу нават невядомы дакладныя звесткі аб магіле Суціна. Прынамсі, існуе версія, што урна з яго прахам уманціравана ў чужую магілу на парыжскіх могілках Манпарнас...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*Фотарэпрадукцыі аўтара.*

**На здымках:** Хаім Суцін; адзін з твораў мастака; магіла на могілках Манпарнас.

## ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЕСІ УКРАІНКІ

# У вянку з кветкаю Ламікамень

СЯРОД ПІСЬМЕННІКАЎ з сусветна вядомым імем няшмат знойдзецца жанчын. У паэтычным сузор'і іх не болей дзесяці. І між іх яскравым роўным святлом гарыць зорка таленту Лесі Украінкі (25.2.1871 — 1.8.1913). Яе мама таксама была паэткай. Псеўданімам сваім яна абрала трапнае слова Пчылка (пчолка), за якім угадваецца народная працавітасць, грунтоўнасць. Дачка прыйшла ў літаратуру ў канцы XIX ст. з моцным адчуваннем сваіх каранёў і велізарнай адкрытасцю ў гістарычныя перспектывы. І яе псеўданім — Украінка — сведчыць аб тым, што не хахлоў, не маларосаў заклікана яна была прадставіць свету, а менавіта ўкраінскі народ. І сваю місію, сваё боскае прызначэнне Ларыса Пятроўна Касач (такое сапраўднае прозвішча паэтэсы) выконвала з несамавітай адказнасцю, выключнай паслядоўнасцю і годнасцю. У кожным яе слове пульсавала гарачае сэрца грамадзяніна, творы яе вызначаліся філасофскім асэнсаваннем рэчаіснасці, апантаным пошукам шляхоў развіцця грамадства, нацыянальнай самасвядомасці, справядлівасці, гармоніі.

Усё жыццё Л. Украінка належала літаратуры. Хворая на сухоты, не маючы магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю, яна вучыцца самастойна, набываючы глыбокія, энцыклапедычныя веды. Усё пазнанае, думкі, адчуванні яна дарэшты ўвасабляе ў творах. Мужная ў сваёй хваробе, яна лічыла, што асабістая трагедыя не можа, не мае права спыніць творчага мыслення мастака. Высокая ідэйнасць, надзённасць і разнастайнасць тэматыкі ў творчасці Л. Украінкі арганічна спалучаліся з навейшай літаратурнай «тэхналогіяй».

Кволая жанчына з трапяткой пяшчотнай душой, Л. Украінка сваёй паэзіяй не саступала ніводнаму «сапраўднаму мужчыну з усёй саборнай Украіны» (І. Франко). Яе творчасць была сапраўднай іскрай Праметэя. Гераічны пафас паэзіі Л. Украінкі праяўляецца як у тэматыцы, так і ў асноўных вобразах яе вершаў: агонь, іскры, меч, іскрыстая зброя. Жанчына, якая стварыла шэдэўры інтымнай лірыкі, была барацьбітом, змагаром і непераўзыдзеным аўтарам філасофскіх твораў. У драматычных паэмах, распрацоўваючы тэматыку антычнасці, Л. Украінка асобным класічным вобразам сусветнай літаратуры давала сваю арыгінальную філасофскую трактоўку, сюжэты і матывы сівой даўніны іншых народаў выкарыстоўвала алегарычна, каб на прыкладзе чужых герояў абудзіць у суайчыннікаў патрыятызм, мужнасць, адвагу...

Інтымная, грамадзянска-патрыятычная, філасофская праблематыка твораў Л. Украінкі была наватарскай. Абноўленым быў і вобразны патэнцыял яе твораў, рэалізм якіх вызначаўся рамантычнай узнёсласцю, эмацыянальнай лірычнай акрыленасцю. Яна любіла родны народ, вывучала яго гісторыю і культуру, перачытвала этнаграфічныя і фальклорныя працы — паглыбляючыся ў мінулае, шукала абрысы будучага. Свабодалюбства, высокія маральна-этычныя прынцыпы і эстэтычныя ідэалы — усё гэта было занатавана ў народных песнях, паданнях, легендах. Вынікам гэтай працы стала драма-феерыя «Лясная песня» — адзін з шэдэўраў не толькі ўкраінскай, але і сусветнай літаратуры.

Насуперак дэкларацыям тагачаснай крытыкі паэтэса даказала, што на старым этнаграфічным матэрыяле можна раскрыць важныя праблемы сучаснага жыцця — праблемы этычныя, эстэтычныя і нават глыбока філасофскія. Прапусціўшы старажытныя ўзоры фальклору праз прызму ўласнага філасофскага светаўспрымання, Л. Украінка ўзняла іх да праблемных роздумаў агульначалавечага гучання — над канцэпцыяй творчых сіл мастацтва, духоўнай сутнасці кахання, шчасця гарманічнага яднання чалавека з прыродай.

Судакрананне Л. Украінкі з Беларуссю адбывалася і непасрэдна. Паэтэса тройчы прыязджала ў Мінск. З нашым горадам звязаў яе лёс «горкай нотай нясконченай размовы». Тут, каля ложка хворага сябра С. Мяржынскага, яна правяла апошнія два месяцы яго жыцця. Як згадвалі сябры, «пакутуючы сама, яна пайшла насустрач чужым пакутам, адкінуўшы асабістае, і сваім мяккім і асцярожным стаўленнем яна сагрэла самотнае жыццё і апошнія дні чалавека выключнай духоўнай тонкасці» (В. Крыжаноўская).

С. Мяржынскі, які быў блізкі да культурнага асяроддзя Мінска, клапаціўся пра пастаноўку ў тутэйшым тэатры п'есы Л. Украінкі «Блакітная ружа». Дзякуючы яго пасрэдніцтву, паэтэса наладзіла цесны кантакт з рэдакцыяй прагрэсіўнага пецярбургскага часопіса «Жизнь», дзе апублікавала некалькі значных прац.

Жыццё і смерць С. Мяржынскага, іх асабістыя ўзаемаадносіны знайшлі ўвасабленне ў шматлікіх творах Л. Украінкі, у прыватнасці такіх, як паэма «Апантаная» (напісана ў Мінску за адну ноч 18 студзеня 1901 г.), некаторыя ўзоры інтымнай лірыкі. Старэйшына сучаснай беларускай паэзіі С. Грахоўскі, апынуўшыся ў палоне выключнай прыгажосці і чысціні чалавечых узаемаадносінаў Л. Украінкі і С. Мяржынскага, іх духоўнай, ідэйнай еднасці, напісаў арыгінальную па зместу паэму «Расстанне на світанку». З вялікім тактам перададзены ў творы асабістыя ўзаемаадносіны герояў, рэалістычнае, дакументальна дакладнае паядноўваецца ў паэме з паэтычнай думкай, якая заўсёды апраўдана як гістарычна, так і дакументальна. Услед за Грахоўскім мы ўспрымаем С. Мяржынскага як прадаўжальніка гераічных спраў Кастуся Каліноўскага, а Сяргея і Лесю — як своеасаблівых хросных бацькоў хлопчыка Яся — будучага Янкі Купалы. Дзякуючы намаганням С. Грахоўскага памяць пра С. Мяржынскага і Л. Украінку ўвасоблена ў назвах вуліц беларускай сталіцы.

Сёлета мае адбыцца новая сустрэча Л. Украінкі з Беларуссю і беларусамі. Сустрэча доўгачаканая, жаданая і, будзем спадзявацца, радасная. Выдавецтва «Юнацтва» падрыхтавала да друку том выбраных твораў М. Кацюбінскага і Л. Украінкі. Хочацца верыць, што беларускія перакладчыкі зрабілі ўсё, каб дзівосны свет геніяльнай дачкі братняга нам славянскага народа, прамяністыя агні яе трапяткой і мужнай творчасці паланілі, здзіўлялі, натхнялі нас зноў і зноў.

Дарэчы тут будзе адзначыць, што ў выяўленне сутнасці гэтай фенаменальнай з'явы — «Леся Украінка» — зрабіў свой уклад і незабыўны У. Караткевіч. Змястоўны, глыбокі, празорлівы яго артыкул мае назву «Saxifraga» (ламікамень), бо Л. Украінка атаясамліваецца ў ім з кветкай, якая, прабіваючыся да святла, крышыць нават камень.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў,**
**дацэнт Белдзяржуніверсітэта.**

## Перарэгістрацыя «ліквідатараў» працягваецца

***Паважаная рэдакцыя! Я з'яўляюся «ліквідатарам», аднак да 1-га студзеня 1996 года не паспеў здаць дакументы на перарэгістрацыю. Ці магу я яшчэ пацвердзіць свой статус?***

**Уладзімір ЯНЧАНКА, Петрыкаўскі раён».**

Як паведамілі нам спецыялісты Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, некалькі дзесяткаў тысяч удзельнікаў ліквідацыі не паспелі да пачатку новага года перааформіць дакументы: многія людзі знаходзіліся ў працяглых камандзіроўках, былі і іншыя прычыны. Зрабіць гэта не позна яшчэ і цяпер, але часу засталося ўжо вельмі мала. Так што спяшайцеся. Трэба толькі мець на ўвазе, што з 1 студзеня 1996 года для ўсіх ліквідатараў, якія не прайшлі перарэгістрацыю, карыстанне ўстаноўленымі законам льготамі прыпынена.

На канец мінулага года ў рэспубліцы налічвалася 126 тысяч удзельнікаў ліквідацыі наступстваў на ЧАЭС, перарэгістравана на 1 студзеня 1996 года 95.525 пасведчанняў, адмоўлена ў перарэгістрацыі пакуль 1.573 чалавекам — у асноўным з-за непацвярджэння ўдзелу ў работах па ліквідацыі аварыі ў 30-кіламетровай зоне.

## Міжнародны кангрэс — аб праблемах Чарнобыля

***Ці не маглі б вы расказаць аб маючым адбыцца ў сакавіку Міжнародным кангрэсе «Свет пасля Чарнобыля».***

**Алесь ГУРЫНОВІЧ, г. Гомель**

25—29 сакавіка ў г. Мінску пройдзе III Міжнародны кангрэс «Свет пасля Чарнобыля», прымеркаваны да дзесяцігоддзя трагедыі на ЧАЭС. Заяўкі на ўдзел у яго рабоце ўжо падалі звыш 300 гасцей з 20 краін свету, а да моманту адкрыцця іх колькасць, як плануецца, узрасце яшчэ на 50—70 чалавек.

На кангрэсе будуць заслуханы вынікі найноўшых даследаванняў катастрофы на ЧАЭС. Арганізатары мерапрыемства ставяць перад сабой мэту стварэння Міжнароднага фонду дапамогі пацярпеўшым ад ядзерных катастроф, а таксама каардынацыю ўжо дзеючых цяпер міжнародных праграм і прадухіленне іх узаемнага дубліравання.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Узнагароды лепш не губляць

***Паважаная рэдакцыя! Мая сястра ў 1945 годзе была ўзнагароджана ордэнам «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», аднак за гэты час ордэн і дакументы на яго згубіліся. Прашу адказаць, дзе яна можа ўзяць даведку аб тым, што была ўзнагароджана, і ці будзе яна сапраўдная для налічэння 40 працэнтаў да мінімальнай пенсіі?***

**К. ЛАПЦЭВІЧ, Крупскі р-н**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, людзі, якія былі ўзнагароджаны ордэнам «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», безумоўна, маюць права на налічэнне 40 працэнтаў да мінімальнай пенсіі. Аднак для гэтага трэба прадставіць усе належныя дакументы. Калі пасведчанне згублена, трэба звярнуцца па пацвярджэнне ўзнагароджання ва ўстанову, якая яго праводзіла, або ў райвыканком.

## Грамадзянін Беларусі служыць у расійскай арміі не можа

***Паважаныя вядучыя «Пытальніка» адкажыце, калі ласка, ці можа беларускі хлопец паступіць на службу ў расійскую армію па кантракту? Калі можа, то куды трэба звяртацца?***

**В. ВІНАГРАДАЎ, г. Гомель.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-цэнтры Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, усё залежыць ад таго, грамадзянінам якой краіны з'яўляецца гэты «беларускі хлопец». Калі малады чалавек — грамадзянін Беларусі, то служыць у арміі Расійскай Федэрацыі ён не можа.

## Дзіўная назва — ордэн Падвязкі...

***Яна зацікавіла мінчаніна В. ПАПЯРЭЦКАГА. Па яго просьбе мы расказваем пра гэты ордэн, выкарыстаўшы гістарычную літаратуру.***

Ордэн Падвязкі — найвышэйшы англійскі прыдворны ордэн — быў заснаваны ў 1350 годзе. Дакладнае паходжанне такой непрывычнай назвы для ўзнагароды не ўстаноўлена, паколькі існуе некалькі версій наконт гэтага.

Згодна з адной з іх, кароль Эдуард III у час т.зв. Стогадовай вайны з Францыяй даў сігнал да бітвы пры Крэсі (1346 г.), падняўшы на канцы кап'я сваю падвязку. Згодна з другой версіяй, слова «падвязка» служыла ў той жа бітве своеасаблівым паролем. Нарэшце, існуе больш праўдападобнае паданне: быццам у час прыдворнага балю ў графіні Солсберы — фаварыткі Эдуарда III — упала з нагі падвязка. Кароль падняў яе, сказаўшы пры гэтым: «Сорамна таму, хто падумае аб гэтым кепска» (гэтыя словы па-французску выгравіраваны на ордэне) і суцешыў графіню абяцаннем зрабіць падвязку знакам высокага гонару. Французскі надпіс, відаць, тлумачыцца тым, што Эдуард III быў унукам французскага караля Філіпа IV і доўгі час прэтэндаваў на французскі прастол. Ордэн Падвязкі складаецца з сіняй аксамітнай стужкі, якая носіцца пад левым каленам, і залатога медальёна на сіняй стужцы, які носяць на грудзях.

Між іншым, у тым жа XIV стагоддзі, у самым канцы яго, у 1399 годзе быў заснаваны яшчэ адзін англійскі ордэн зноў жа з экзатычнай назвай — ордэн Лазні. Гэтую назву звычайна тлумачаць тым, што цырымонія прысвячэння ў рыцары ордэна Лазні ўключае ў сябе працэдуру лазневага абмывання.

## Каньяк супраць выпадання валасоў

***Падкажыце, калі ласка, які-небудзь добры народны сродак ад выпадання валасоў. Розныя шампуні і аптэчныя мазі мне не дапамаглі.***

**М. А., г. Дзяржынск.**

У першую чаргу вам усё ж неабходна звярнуцца да ўрачоў-спецыялістаў, каб высветліць прычыну захворвання валасоў, а затым ужо пачынаць лячэнне.

Народных сродкаў ад выпадання валасоў існуе мноства. Вось адзін з іх. Уцірайце сок цыбулі з каньяком і адварам каранёў лопуху. Вельмі дзейсны сродак, сцвярджаюць спецыялісты. На адну частку каньяку трэба браць чатыры часткі соку цыбулі і шэсць частак адвару каранёў лопуху. Для гэтай жа мэты сяляне часта націраюць галаву разрэзанай цыбулінай і ўціраюць добрай якасці газу.

## Бывае, што чэкі можна атрымаць без пашпарта

***Мая бабуля-інвалід не можа атрымаць чэкі «Маёмасць», таму што не мае пашпарта. Справа ў тым, што калі выдавалі пашпарты, яна захварэла і не змагла атрымаць яго. Зараз бабулі 74 гады, 31 з якіх яна інвалід. Яна ледзь перамяшчаецца ад ложка да стала. Везці яе за трыццаць шэсць кіламетраў у раён, каб сфатаграфавацца, а потым яшчэ атрымаць пашпарт, амаль нерэальна. Няўжо з-за адсутнасці дакумента бабуля не атрымае чэкі?***

**З павагай Людміла, Петрыкаўскі раён.**

Адказ на пытанне дала начальнік упраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Зінаіда Шаўчэнка.

— У адпаведнасці з «Інструкцыяй аб парадку захоўвання, выдачы і ўліку імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» налічэнне чэкаў ажыццяўляецца па пашпарту або любому пасведчанню асобы. Пашпарт прад'яўляецца для вызначэння асобы, яе ўзросту і грамадзянства. Пры адсутнасці пашпарта ў тэрытарыяльную камісію па налічэнню чэкаў можна прадставіць пасведчанне аб нараджэнні (каб вызначыць узрост), дамавую кнігу, дзе зафіксавана, што па стану на 3 жніўня 1993 г. асоба пражывала на тэрыторыі рэспублікі (каб пацвердзіць грамадзянства). Урэшце, калі, як у дадзеным выпадку, жанчыну добра ведаюць і яна ўсё сваё жыццё пражыла на тэрыторыі сельсавета, там могуць выдаць даведку, якая б пацвярджала асобу прад'яўніцы. Гэта абавязкова фіксуецца ў пратаколе. Тэрытарыяльная камісія па налічэнню чэкаў можа і павінна, улічваючы абставіны, дапамагчы чалавеку.

## У бліжэйшы час амністыі не чакаецца

***Даведаўся, што многія краіны свету, у тым ліку і некаторыя краіны СНД, у сувязі з 50-годдзем ААН правялі амністыю. Ці будзе праведзена амністыя ў нашай рэспубліцы?***

**Л. СЕЧКА, г. Навагрудак.**

Цяжка не пагадзіцца з выказваннем нашага чытача наконт таго, што турмы перапоўнены на 10 мільёнаў чалавек. 50 тысяч — зняволеныя. Аднак, як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, пытанне аб амністыі ў сувязі з 50-годдзем ААН у нашай рэспубліцы пакуль не разглядаецца.

## Што азначае «Е»?

***Некалькі месяцаў таму назад прачытаў, што ў імпартных цукерках, напоях, пячэнні і іншай ежы нібыта прысутнічаюць атрутныя рэчывы, якія пазначаны літарай «Е». Растлумачце, калі ласка, ці так гэта?***

**А. КОДЗІН, г. Узда.**

Каб адказаць на гэта пытанне, мы звязаліся са спецыялістамі Белдзяржстандарту. Там нам, у прыватнасці, паведамілі, што літара «Е» азначае: усе харчовыя дабаўкі рэгламентаваны еўрапейскай сістэмай, і прадукты можна прадаваць у любой краіне свету. Адзінае, на што хацелася б звярнуць вашу ўвагу, заключаецца ў наступным: калі раптам у вас узнікае пытанне аб якасці прадукту, вы маеце права запатрабаваць у любым кіёску, магазіне сертыфікат або якаснае пасведчанне. У абавязковым парадку звярніце ўвагу, каб у сертыфікаце або якасным пасведчанні быў пазначаны менавіта той прадукт, які вы купляеце. У тым жа выпадку, калі гэтыя дакументы адсутнічаюць, лепш тавар не набываць — ён не прайшоў сертыфікацыі ў лабараторыі Белдзяржстандарту або Міністэрства аховы здароўя, і яго якасныя характарыстыкі невядомы.

## Слова за парламентамі

***У мінулым годзе сродкі масавай інфармацыі рэспублікі часта ўзнімалі пытанне аб прыналежнасці некаторых тэрыторый на мяжы Літвы і Беларусі той ці іншай краіне. Спрэчка вялася некалькі гадоў. Ціназіраюцца ў гэтай справе якія-небудзь станоўчыя зрухі?***

**А. ГЛУШАНОК, г. Магілёў.**

Праца ў гэтым накірунку вялася амаль тры гады і нарэшце дасягнула прымальнага выніку. 9 лютага ў Мінску міністры замежных спраў Беларусі — Уладзімір Сянько і Літвы — Павілас Гіліс падпісалі пратакол і дэлімітацыйныя карты беларуска-літоўскай дзяржаўнай мяжы. Зараз, у выпадку, калі парламенты абедзвюх краін ратыфікуюць Дагавор аб беларуска-літоўскай мяжы, абодва бакі ліквідуюць магчымасць узаемных патэнцыяльных тэрытарыяльных прэтэнзій. А гэта ў сваю чаргу пазбавіць абедзве дзяржавы ад перашкод на шляху да ўступлення ў Еўрапейскі саюз і НАТО.

## Калі адбудзецца сустрэча з «Встречей»?

***Год таму ў рэспубліцы выдаваўся часопіс «Встреча», на яго нават можна было аформіць падпіску. Ад іншых падобных выданняў часопіс адрознівалі дабрыня і зацікаўленасць у чытачу. Як склаўся лёс «Встречи»? Ці будуць мець магчымасць чытачы набываць гэты часопіс?***

**КАЗЛОЎСКІ А.В., г. Шклоў**

На ваша пытанне адказвае галоўны рэдактар часопіса «Встреча» Таццяна Зуева.

— Сапраўды, у сувязі са складаным фінансавым становішча часопіс не выдаваўся на працягу года. Аднак выйсце было знойдзена, і з пачатку бягучага года ў кіёсках «Саюздруку» з'явіўся першы нумар «Встречи». Часопіс па-ранейшаму распаўсюджваецца па рэспубліцы праз сістэму «Саюздруку». Падпіску ж мы пакуль не праводзім. Новая «Встреча» крыху адрозніваецца ад папярэдняй: у ёй больш аб'яў пад рубрыкай «Служба знаёмстваў». Па-ранейшаму друкуюцца цікавыя матэрыялы і вашы пісьмы, паважаныя чытачы. Пішыце, калі ласка, на імя галоўнага рэдактара Таццяны Зуевай: 220012 Мінск-12, а/с 167.

## Браканьерам салодка не прыйшлося

***Чуў, што падчас паляўнічага сезона ладзіліся сумесныя рэйды супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спецыялістаў лясной гаспадаркі з мэтай прадухілення выпадкаў браканьерства. Цікава, ці прынеслі яны нейкі плён?***

**І. ЮХОВІЧ, г. Мінск**

Сапраўды, як паведамілі ў Міністэрстве лясной гаспадаркі, такія рэйды па паляўнічых і рыбных гаспадарках краіны рэгулярна праводзіліся, пачынаючы з кастрычніка мінулага года. Што тычыцца плёну ад іх, дык толькі за студзень бягучага года падчас рэйдаў быў складзены 271 пратакол на парушальнікаў, канфіскавана 57 адзінак зброі, накладзена 12,5 млн. рублёў штрафаў.

Як лічаць работнікі міністэрства, плён ад правядзення такіх мерапрыемстваў несумненны: яны дапамагаюць дысцыплінаваць паляўнічых (якіх, нагадаем, налічваецца ў краіне больш як 120 тысяч чалавек), а таксама прадухіляць выпадкі браканьерства.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ*

# ПРЫЁМ НА РАБОТУ ПЕРАВОДАМ І ШТОГАДОВЫ ВОДПУСК

***«У студзені 1995 годя я быў прыняты на работу пераводам, а ў ліпені звярнуўся да дырэктара завода з просьбай прадаставіць штогадовы водпуск. Аднак у гэтым мне адмовілі і заявілі, што водпуск прадаставяць толькі праз адзінаццаць месяцаў працы на заводзе, таму што датэрміновае прадастаўленне водпускаў прынятым на работу пераводам не прадугледжана калектыўным дагаворам завода.***

***Думаю, што абышліся са мной несправядліва і не па закону. Прашу растлумачыць, хто з нас мае рацыю: я ці дырэктар і аддзел кадраў».***

**Т. ГАНЧАРЭНКА, Гомельская вобласць.**

Павінен вас засмуціць, бо ў дадзеным выпадку вы, на жаль, не маеце рацыі. Дырэктар завода зрабіў правільна, калі адмовіў вам.

У адпаведнасці з арт. 71 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь водпуск за першы год працы прадастаўляецца работнікам пасля адзінаццаці месяцаў працы ў дадзенага наймальніка. Выключэнне робіцца для жанчын перад водпускам па цяжарнасці і родах або пасля яго, непаўналетніх, ваеннаслужачых, звольненых у запас і накіраваных на працу па арганізацыйнаму набору. Ім даюць магчымасць адпачыць пасля трох месяцаў працы. У іншых выпадках водпуск прадастаўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам, калектыўным і працоўным дагаворамі. Напрыклад, у адпаведнасці з арт. 203 КЗаП Рэспублікі Беларусь работнікам, якія вучацца ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па вячэрняй і завочнай формах навучання, штогадовыя водпускі за першы год работы могуць прадастаўляцца, па жаданню, у любы час.

Паколькі ні ў калектыўным дагаворы прадпрыемства, дзе вы працуеце, ні ў працоўным дагаворы пры прыёме на работу пераводам не агаворана прадастаўленне водпуску за першы год працы раней, чым праз адзінаццаць месяцаў бесперапыннай работы на дадзеным прадпрыемстве, і вы не з'яўляецеся студэнтам-завочнікам або вячэрнікам, наймальнік не парушыў заканадаўства.

Гэта што датычыць водпуску за першы год працы. Водпуск жа за другі і наступныя гады можа прадастаўляцца ў любы час у адпаведнасці з чарговасцю.

Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што ў адпаведнасці з арт. 124 Кодэкса аб працы Рэспублікі Беларусь пры звальненні работніка да заканчэння таго працоўнага года, у лік якога ён ужо атрымаў водпуск, за неадпрацаваныя дні водпуску наймальнік утрымлівае з заработнай платы. Гэтага не робіцца, калі работнік звальняецца на падставе прызыву на ваенную службу, пераводу з яго згоды да другога наймальніка, пераходу на выбарную пасаду, адмовы работніка ад пераводу на работу ў іншую мясцовасць разам з наймальнікам, а таксама адмовы ад працягу работы ў сувязі са змяненнем існуючых умоў працы, ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка, вызначэння неадпаведнасці работніка займаемай пасадзе або калі работа выконваецца пры недастатковай кваліфікацыі і дрэнным здароўі, што перашкаджае прадаўжэнню дадзенай працы, няяўкі на працу больш як чатыры месяцы з-за часовай непрацаздольнасці, пры накіраванні на вучобу, а таксама ў сувязі з выхадам на пенсію.

**Віктар ДАМАШЭВІЧ,**
**галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

# ДЗЯРЖАВА ПАВІННА БЫЦЬ ГАРАНТАМ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

НОВЫ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ Рэспублікі Беларусь пачаў работу ў даволі складаных умовах. Падае аб'ём вытворчасці. Расце расслаенне грамадства на бедных і багатых. Бяднеюць навука, культура, медыцына, адукацыя. Многае ў будучым залежыць ад законаў, якія прыме Вярхоўны Савет Беларусі трынаццатага склікання.

Пастаянная камісія па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі — адна з самых складаных у парламенце. Па-першае, у гэтай камісіі аб'яднана пяць рознапланавых і важнейшых напрамкаў грамадскай дзейнасці. Прычым адзін з важнейшых у сусветнай практыцы — забеспячэнне правоў чалавека.

Па-другое, камісія не мае сваіх базавых міністэрстваў і ведамстваў. Многія законы прыйдзецца распрацоўваць у самой камісіі, сіламі членаў гэтай камісіі, а не чакаць дапамогі збоку.

Па-трэцяе, камісіі вельмі важна ўтрымацца ў сваім прававым калідоры. Ужо цяпер, у пачатку работы парламента, некаторыя палітычныя сілы спрабуюць «выціснуць» камісію ў калідор выканаўчай або судовай улады, прымусіць выконваць не ўласцівыя ёй функцыі.

Па-чацвёртае, у сувязі з магчымым уступленнем рэспублікі ў Савет Еўропы неабходна будзе правесці даволі складаную работу па ўзгадненню беларускіх законаў з Канвенцыяй па правах чалавека, іншымі міжнароднымі актамі. Тым больш, што некаторыя законы ўжо прайшлі міжнародную экспертызу і патрабуюць пэўнай карэкціроўкі.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Правы чалавека — гэта ўсеагульныя, універсальныя каштоўнасці, якімі павінен карыстацца кожны чалавек. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь даволі дакладна вызначаны галоўныя сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і грамадзянскія правы. Аднак многія з іх па самых розных прычынах рэалізуюцца не поўнасцю або зусім не рэалізуюцца. Як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя Беларускім інстытутам інфармацыі і прагнозу, дзве трэці насельніцтва краіны занепакоены ростам цэн, больш як палова — ростам злачыннасці, амаль палова — адсутнасцю рэальнай сацыяльнай абароны. Пяць гадоў таму права на працу рэалізоўвалася поўнасцю — цяпер з кожным днём расце беспрацоўе. Раней кожны чалавек мог атрымаць бясплатнае жыллё — цяпер палова насельніцтва не мае ніякіх шанцаў яго набыць. Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне і сацыяльнае забеспячэнне за гады савецкай улады трывала ўвайшло ў жыццё людзей. Цяпер яно, а таксама лепшае ў свеце дашкольнае і пазашкольнае выхаванне, знішчаюцца. Парушаюцца многія палітычныя і грамадзянскія правы людзей. Чаму?

Прычыны самыя розныя. Пералічу самыя галоўныя. Па-першае, напаўняльнасць адных правоў з дапамогай законаў вымушае жадаць лепшага. Па-другое, ранейшы Вярхоўны Савет, спрабуючы стварыць новы сярэдні клас, пабудаваць капіталістычнае грамадства, прыняў законы, якія парушаюць вельмі многія правы людзей, робяць жыхароў Беларусі беднымі, бяспраўнымі, без надзей на лепшае будучае. І нарэшце, недастаткова эфектыўныя механізмы рэалізацыі многіх законаў.

Зыходзячы з гэтага, перад новым Вярхоўным Саветам стаіць задача прыняцця цэлага комплексу законаў, якія б забяспечвалі сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і грамадзянскія правы людзей, адпаведнага ўзроўню іх абароны. Гэта датычыць перш за ўсё такіх асноўных пытанняў, як права на жыццё, на яго даволі высокі ўзровень, на сацыяльную абарону, на жыллё, права на працу, адпачынак, абарону ад негатыўных уздзеянняў навакольнага асяроддзя, права на адукацыю, ахову здароўя і сацыяльнае забеспячэнне, права на свабоду і недатыкальнасць асобы, права на ўдзел у вырашэнні дзяржаўных пытанняў. Па-другое, перагляд або нават адмена шэрага законаў, прынятых ранейшым Вярхоўным Саветам Беларусі. Наша камісія ўжо на гэту сесію выносіць законы «Аб зваротах грамадзян», «Аб аўтарскім праве і сумежных правах». Заканчваецца работа над Законам «Аб праве грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду перамяшчэння, выбар месца знаходжання і жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь». Будуць унесены змяненні ў адпаведнасці з міжнародным правам і ў шэраг іншых законаў. Многія законы па рэалізацыі правоў чалавека будуць распрацаваны сумесна з іншымі камісіямі парламента.

## СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

Праблема сродкаў масавай інфармацыі — адна з самых складаных у рэспубліцы. Сродкі масавай інфармацыі павінны адлюстроўваць усе пункты гледжання, якія існуюць у грамадстве, праўдзіва інфармаваць людзей аб падзеях, якія адбываюцца ў рэспубліцы і свеце. На жаль, гэтага не адбываецца. Як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, толькі 7,1 працэнта насельніцтва поўнасцю давяраюць рэспубліканскім сродкам масавай інфармацыі. Прычым самы нізкі «каэфіцыент праўдзівасці» сярод буйных газет у органа Вярхоўнага Савета — «Народной газеты». Кантэнт-аналіз сродкаў масавай інфармацыі за мінулы год паказвае, што ў шэрагу газет утрымліваліся заклікі да звяржэння канстытуцыйнай улады, знявагі вышэйшых службовых асоб, прыніжэнне гонару і годнасці грамадзян Беларусі. Пра якое ўсебаковае асвятленне падзей у «Советской Белоруссии» можа ісці размова, калі яе рэдактар П. Якубовіч у інтэрв'ю газеце «Имя» з гонарам гаворыць, што да яго ў газету ўжо не звяртаюцца вядомыя ў рэспубліцы людзі — Э. Скобелеў і В. Акулаў? А пухавіцкая раённая газета дайшла нават да таго, што не друкуе свайго дэпутата Вярхоўнага Савета.

Самае горшае, што ў шэрагу выпадкаў сродкі масавай інфармацыі свядома ідуць на скажэнне ісціны дзеля палітычных амбіцый. Прывяду толькі адзін прыклад. У лістападзе мінулага года група новых дэпутатаў па запрашэнню еўрапейскай арганізацыі ездзіла ў ФРГ. Напярэдадні паўторных парламенцкіх выбараў агенцтва БелаПАН публікуе пра гэту паездку груба падтасаваную інфармацыю з далёкім прыцэлам. Журналісты дзеля імгненных палітычных выгод пайшлі на адкрытую няпраўду, забываючы пра элементарную прыстойнасць.

Як старшыня камісіі, бачу дзве галоўныя задачы ў сферы масавай інфармацыі:

1) заканадаўча забяспечыць максімум гарантый свабоды сродкаў масавай інфармацыі, галоснасць і аб'ектыўнасць інфармацыі, абароны СМІ ад уладных структур;

2) забяспечыць абарону гонару і годнасць грамадзяніна, чалавека ад сродкаў масавай інфармацыі.

Усе законы аб сродках масавай інфармацыі павінны будавацца на наступных прынцыпах:

1. Усякая цэнзура, прамая або ўскосная, недапушчальная. Уладныя структуры не маюць права як умешвацца ў змест публікуемай інфармацыі, так і абмяжоўваць доступ да яе крыніц.

2. Сродкі масавай інфармацыі павінны ў зацверджаным законам парадку адказваць за публікуемую або перадаваемую інфармацыю, несці адказнасць, нават крымінальную, за заклікі да насілля, да звяржэння канстытуцыйнай улады, распаўсюджванне няпраўды і паклёпаў, знявагі гонару і годнасці грамадзян, іншыя проціпраўныя дзеянні.

3. Кожны грамадзянін Беларусі мае права выказваць свой пункт гледжання ў сродках масавай інфармацыі. Дзяржаўныя СМІ павінны публікаваць розныя пункты гледжання.

4. Павінна быць прадастаўлена магчымасць бесперашкоднага стварэння незалежных органаў друку, тэлебачання і радыё, якія маюць пэўныя абавязацельствы перад дзяржавай.

5. Журналісты гэтак жа, як і іншыя грамадзяне, павінны быць забяспечаны поўнай абаронай іх правоў, ім павінны быць створаны неабходныя ўмовы для іх эфектыўнай прафесійнай дзейнасці.

6. Важна забяспечыць пэўныя падатковыя льготы для сродкаў масавай інфармацыі, роўнае размеркаванне грошай падаткаплацельшчыкаў.

Камісія пачынае работу над Законам «Аб інфармацыі» — адным з галоўных інфармацыйных законаў. Закон «Аб радыё і тэлебачанні» сумесна з іншымі камісіямі будзе вынесены на першую сесію парламента. Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» будзе дапрацаваны ў адпаведнасці з міжнароднымі нормамі.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ

У Беларусі склалася рэальная шматпартыйнасць, зацвердзіўся новы шматпартыйны спектр палітычнага жыцця. Нядаўна зарэгістравана трыццаць шостая палітычная партыя з вельмі своеасаблівай назвай — «Ачышчэнне». Кожная партыя прадстаўляе і абараняе інтарэсы пэўных сацыяльных груп. Палітычная вага партый розная, рэйтынг іх вагаецца ад 0 да 34,9 працэнта. І ўсё ж кожная партыя павінна мець рэальныя магчымасці ўдзельнічаць ва ўсіх палітычных працэсах, якія адбываюцца ў грамадстве, мець выхад на кіруючыя структуры, сродкі масавай інфармацыі. Неабходна падумаць аб фінансавай падтрымцы палітычных партый, прадстаўленых у парламенце, як гэта робіцца ў Швецыі, Фінляндыі, Аўстрыі, іншых заходніх краінах. Дзяржава павінна садзейнічаць развіццю шматпартыйнасці, а партыі ў сваю чаргу дапамогуць вырашаць шматлікія праблемы ў сценах парламента, а не пры дапамозе танкавых гармат, як гэта было ў Расіі.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ І КАНФЕСІЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ

Многія міжнацыянальныя праблемы ў нашай краіне ўдалося вырашыць. Як сцвярджаюць вучоныя, у рэспубліцы прадаўжаецца працэс нацыянальнага самавызначэння беларусаў. Быў прыняты даволі нядрэнны Закон «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь». Адбываецца значная актывізацыя культурнага жыцця нацыянальных меншасцей, створаны і зарэгістраваны рускае, украінскае, польскае, азербайджанскае, армянскае, яўрэйскае, карэйскае, літоўскае, малдаўскае, нямецкае і цыганскае таварыствы.

У той жа час нацыянальная культура і мова апынуліся, асабліва ў апошнія гады, на другім плане. Ва ўмовах «дэмакратызацыі» адсутнічаюць неабходныя сродкі на нацыянальную адукацыю, літаратуру, тэатр, музеі і г.д. Яшчэ не афармлены заканадаўча і вынікі майскага (1995 г.) рэферэндуму.

Доля веруючых у рэспубліцы, як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, вырасла з 10—15 працэнтаў у 1988 годзе да 30 працэнтаў у 1990 годзе і цяпер набліжаецца да 45 працэнтаў. У краіне налічваецца каля трыццаці плыняў і канфесій, больш як дзве тысячы абшчын. Узнімаецца пытанне аб адраджэнні уніяцкай царквы. З'явіліся секты з ярка выражанай антыграмадскай накіраванасцю: сатаністы, прадстаўнікі Белага брацтва і нават «Аум сінрыкё». Нараджаюцца зусім нетрадыцыйныя для Беларусі рэлігійныя накірункі: крышнаізм, дэн-будызм, аамата і г. д.

Такім чынам, пры ўсіх поспехах і дасягненнях у рэспубліцы ёсць пэўнае раздзяленне грамадства па культурных і моўных праблемах, па нацыянальных і канфесіянальных пытаннях, існуе двухполюсная арыентацыя (Усход—Захад) нацыянальнай самасвядомасці.

Вышэйсказанае абумоўлівае неабходнасць усебаковага развіцця беларускай культуры на аснове яе цеснага ўзаемадзеяння з культурамі ўсіх нацый і народнасцей, якія ёсць у Беларусі, заканадаўчага афармлення вынікаў мінулагодняга майскага рэферэндуму. Галоўнае, каб законы забяспечвалі развіццё ўсіх моў і культур, свабоднае веравызнанне ўсіх канфесій. Толькі ў такім выпадку можна разлічваць на забеспячэнне правоў усіх жыхароў краіны, гарантаваць поўную роўнасць грамадзян.

У нашай камісіі працуюць людзі самых розных поглядаў, самых розных прафесій. Яны разумеюць сваю адказнасць перад беларускім народам. Усё гэта дасць пэўную гарантыю таго, што законы, распрацаваныя ў нашай камісіі, будуць служыць людзям.

**Ігар КАТЛЯРОЎ,**
**старшыня Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, доктар сацыялагічных навук, прафесар.**

ТЭНДЭНЦЫІ

# ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ?

НОВЫ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ працуе менш як два месяцы — дэпутаты яшчэ нават пазнаёміцца адзін з адным як след не паспелі. А ў палітычнай атмасферы ўжо выразна адчуваецца подых блізкай навальніцы, якая можа скончыцца, паводле меркавання многіх экспертаў і саміх парламентарыяў, — датэрміновым роспускам Вярхоўнага Савета.

Новы дэпутацкі корпус наўрад ці можна западозрыць у схільнасці да канфрантацыі, жаданні абвастрыць сітуацыю. Наадварот: парламентарыі сваімі першымі крокамі ўсяляк імкнуліся прадэманстраваць міралюбнасць, імкненне да супрацоўніцтва, зараджанасць на кампрамісы. Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі за месяц на сваёй высокай кіраўнічай пасадзе не раз у рызыкоўных сітуацыях абмінаў вострыя вуглы і, часам нават ва ўрон іміджу, пазбягаў рэзкіх ацэнак, якіх, здавалася б, вымагала аднназначная сітуацыя.

Цярплівасці і стрыманасці дэпутатаў спрыяе і адсутнасць той ярка выражанай парламенцкай апазіцыі, якой у Вярхоўным Савеце папярэдняга склікання былі прадстаўнікі Народнага фронту. Лібералы і сацыял-дэмакраты, якія занялі іх месца, паводзяць сябе намнога больш карэктна, асцярожна, сваімі паводзінамі зусім не стымулюючы ўнутрыпарламенцкіх разборак.

Як жа здарылася, што ўжо на першым этапе свайго мірнага, бяскрыўднага існавання Вярхоўны Савет 13-га склікання трапіў у крытычную сітуацыю, з якой бесканфліктнае выйсце выглядае вельмі праблематычным?

Прэзідэнт не палічыў патрэбным узгадняць з Вярхоўным Саветам кандыдатуру старшыні Нацыянальнага банка, як таго патрабуе Канстытуцыя, — а прызначыў на гэту пасаду Тамару Віннікаву сваім аднаасобным указам. Калі б зацвярджэнне кіраўніка Нацбанка адбывалася паводле законнай працэдуры, па ўстаноўленай Канстытуцыяй формуле, амаль няма сумненняў, што Тамара Дзмітрыеўна была б у сціслыя тэрміны бесперашкодна зацверджана на новай пасадзе. Тым больш, калі б Аляксандр Лукашэнка асабіста папрасіў аб гэтым парламент.

Аднак ён пайшоў іншым шляхам, які закрануў і Канстытуцыю, і самалюбства большасці дэпутатаў. У выніку нарадзілася вядомая пастанова Вярхоўнага Савета, якою прадпісана да абрання новага старшыні парламентам абавязкі кіраўніка Нацбанка выконваць Мікалаю Кузьмічу. Натуральна, пасля ўсіх гэтых падзей зацвярджэнне Тамары Віннікавай на новай пасадзе выглядае праблематычным.

Другая красамоўная сітуацыя звязана з парламенцкімі слуханнямі наконт паслання Канстытуцыйнага суда аб стане канстытуцыйнай законнасці ў дзяржаве. Вярхоўны Савет напярэдадні, 21 лютага, прыняў спецыяльную пастанову, якой абавязаў кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё наладзіць прамую радыё- і тэлетрансляцыю слуханняў. Раніцай 22 лютага ў зале Вярхоўнага Савета не з'явіліся ні тэлекамеры, ні нават тлумачэнні кіраўнікоў тэлерадыёкампаніі, якія б абгрунтоўвалі такое дэманстратыўнае ігнараванне волі заканадаўцаў.

Больш таго, у зале ў гэты дзень, калі абмяркоўваўся надзвычай важны палітыка-прававы дакумент, не было бачна нікога з кіраўнікоў тых ведамстваў, якія павінны стаяць на варце Канстытуцыі і законаў. Я спытаў у старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні, які выступаў перад Вярхоўным Саветам з паведамленнем наконт паслання, ці не збянтэжыў яго гэты факт. Валерый Гур'евіч адказаў:

— Справа ў тым, што якраз у гэтыя дні суды падводзяць вынікі работы за 1995 год. У дзень, калі адбываліся слуханні ў Вярхоўным Савеце, у Вярхоўным судзе праходзіла пасяджэнне прэзідыума суда. Там жа знаходзіўся выконваючы абавязкі Генеральнага пракурора.

— З кіраўнікамі судоў, пракуратуры вы падтрымліваеце кантакты?

— Так, безумоўна. І, думаю, яны разумеюць сітуацыю.

— А з кіраўніцтвам выканаўчай улады кантактуеце?

— На жаль, пасля таго інцыдэнту, калі кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта прапанаваў мне падаць заяву аб адстаўцы, ніякіх кантактаў і сустрэч у нас не было. І, думаю, ініцыятыва павінна зыходзіць з таго боку, які мяне такім чынам зняважыў, пакрыўдзіў.

Аналізуючы падзеі апошняга часу, цяжка не прыйсці да высновы, што кіраўніцтва выканаўчай улады ў шэрагу выпадкаў свядома ідзе на абвастрэнне сітуацыі. Дзеля чаго? Дзеля канцэнтрацыі яшчэ большай улады ў сваіх руках?

І гэтае імкненне можа быць задаволена. У масавай свядомасці такія паняцці, як «прававая дзяржава», «прынцып падзелу уладаў», «канстытуцыйная законнасць» — размытыя. Дзяржаўная ўлада персаніфікуецца і асацыіруецца галоўным чынам з асобай Прэзідэнта. Наш народны Прэзідэнт чуйна ўлоўлівае гэтыя грамадскія настроі і адчувае ўласную залежнасць у першую чаргу ад іх, і толькі потым — ад Канстытуцыі ці Вярхоўнага Савета.

А ў шырокіх народных масах давер да Аляксандра Лукашэнкі па-ранейшаму высокі. Калі б прэзідэнцкія выбары адбываліся ў студзені, за яго гатовы былі б аддаць галасы 35,8 працэнта грамадзян Беларусі. Гэта на 2,7 працэнта менш, чым у снежні, і ўсё ж — вельмі ўнушальны паказчык (тут і ніжэй — звесткі сацыялагічнай лабараторыі Андрэя Вардамацкага «Новак»). І гэта на фоне таго, што 70,2 працэнта грамадзян лічаць, што становішча ў краіне пасля абрання Прэзідэнта пагоршылася. Такім чынам, няцяжка прыйсці да высновы, што ўсе эканамічныя і сацыяльныя нягоды сённяшняга дня ў грамадскай свядомасці менш за ўсё асацыіруюцца з асобай Прэзідэнта.

З кім жа ў такім разе? Лагічна меркаваць, што — з іншымі асобамі і іншымі дзяржаўнымі інстытутамі, якія быццам бы замінаюць Прэзідэнту. У такой сітуацыі на каго б ні скіраваў Аляксандр Лукашэнка свой гнеў — грамадская думка кіраўніка дзяржавы наўрад ці асудзіць.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## На конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў




ВЕЧАР БЫЎ ЦЁМНЫ І ХАЛОДНЫ. Нават была ўжо амаль ноч, толькі Апанас Руладзь, сярод сяброў вядомы, як Наш Хлопец, гэтага не заўважаў. Ён вяртаўся з адной мужчынскай кампаніі, дзе гадзіны здаюцца хвілінамі, а час наогул ніхто не адчувае. Былі старыя сябры, некалькі агульных знаёмых, гаварылі аб усім і ні аб чым, але бяседа проста гудзела. Усе нечаму смяяліся, нібыта дасціпна жартавалі. Кампанія як кампанія, якіх на жыцці Апанаса было дастаткова. Усе падобныя адна на адну, і канец заўсёды аднолькавы: выпівалі ўсю гарэлку, потым шукалі яшчэ. Таму што было мала. І на гэты раз было тое ж самае. Выпівалі, гаманілі, потым хацелі яшчэ дадаць. І ў рэшце рэшт кожны неяк паехаў дамоў: на аўтобусе, тралейбусе, трамваі. Дабіраліся з рознымі здарэннямі.

Апанас як сеў у тралейбус, адстаяўшы з паўгадзіны на сіверным ветры на прыпынку, так адразу і задрамаў. Помніў, што ехаць доўга, і таму, прыхіліўшыся да цёплай сцяны, спакойна спаў.

Ачуўся ад таго, што тралейбус стаяў і праз акно было відаць: да дому недалёка. Калі пайсці наўпрост, дык найбольш два кіламетры. І ўжо не думаючы Апанас мацней сціснуў у руцэ дыпламат і ступіў у цемру.

Ліхтары на вуліцы і ля дамоў не гарэлі. Змрочнае было і неба: панылае, без зорак і месяца. Зрэдзь ад адзінокага святла, што сям-там прабівалася з якога-небудзь акна, віднеліся ў халодным шэрым бляску лужыны. З усіх бакоў і на сцежцы, па якой ён ішоў вобмацкам, чарнела мокрая і глыбокая ад шматлікіх дажджоў гразь, як рэдкае цеста, цёмна-карычневая гліна. Апанас са злосцю падумаў, які ён дурань, што выбраў гэту дарогу. І ўдзень тут цяжка ісці, нейкі ж д'ябал панёс яго цяпер. Адказ быў толькі адзін: падпіўшым людзям і мора па калена...

Апанас ішоў як па балоце. Туфлі ледзь трымаліся на нагах. Штохвіліны ён мог застацца босым. Разамлелы пасля сну і тралейбуснага цяпла цягнуўся памалу, спатыкаючыся, аднак упэўнена, быццам запраграміраваны на гэту слізкую і брудную дарогу. І недзе там, за гарою, праз стадыён, узвышаўся ягоны дом, дзе, магчыма, яшчэ чакала, не спала жонка. Было б лепш, каб спала, тады ён ціхутка распрануўся б і, не ўключаючы святла, лёг бы ў ложак. Апанас усміхнуўся, уявіўшы твары дзяцей, жонкі, і на душы стала цёпла і спакойна.

— Гэй, што, аслеп?! Не бачыш куды ідзеш?!, — прагучаў сіпаваты голас.

Ці не прыснілася яму гэта? Надта рэзкі і нечаканы быў вокрык у гэтай тупой і густой цішыні. Апанас нават прыпыніў хаду, спакваля ачуньваючы ад сваёй дрымотнай вяласці. Неяк збоку проста асляпіў прамень ліхтара. І адразу ж з рук ірванулі дыпламат, але пакуль няўдала. Нібы цюкнула ў галаву: трэба бегчы. І як мага хутчэй. Страх, здалося, прайшоў па ўсім целе, аж да пят. І ногі зрабіліся бы не свае, а чужыя.

Ударылі ззаду нечым цяжкім, як калом, зачапіўшы патыліцу. Зорачкі засвяціліся ўваччу, але боль быў выратавальны. Ён абудзіў сілы і пачуццё рэальнасці, інстынкт самазахавання. Не зважаючы на дыпламат, Апанас скочыў-слізгануў па гэтай чорнай гразі. Не разбіраючы дарогі колькі было сілы паімчаў вялікімі скачкамі. Не думаючы, што можа ў цемры грымнуцца і паламаць рукі-ногі. Ззаду крычалі, галёкалі, але ліхтаром не свяцілі. Ён бег і бег. Ачуўся ўжо ля свайго дома. Пад сляпым святлом пад'езда агледзеў сябе і жахнуўся. На левай назе не было туфлі: усё-ткі балота-дарога ўсмактала яе. Дыпламат застаўся таксама там, у гразі. Калі ўтапіўся ў ёй, дык, можа, і добра. Колькі гадоў яму, даўно час змяніць на больш прыстойны, сучасны. Унутры некалькі нікчэмных паперак і блакнот. Ужо ў ліфце Апанас памацаў свае кішэні. Стала трошкі ніякавата. Не было партаманета з пашпартам і вадзіцельскім пасведчаннем, з паўмесячным заробкам. Без заробку якнебудзь пражыве, але дзе ж дакументы?

Раніцай, як толькі за акном пашарэла, ён выбег з дому, нібыта на фіззарадку. Уначы быў невялікі мароз, бо сцежка прыхавалася пад кволай скарынкай падсохлай гліны. Сям-там гулялі сабакары-аматары. Ён прабег наўсцяж разбітай коламі будаўнічых машын шырознай пусткі, якую рэзала напалам гэтая сцежка. Ніякага следу начной сустрэчы. Значыць, дыпламат у іх... Зрэшты, ён чорны, мо дзе ляжыць у гразі... Ці заўважыш яго?..

Нікога ўжо дома не было, і Апанас таксама пачаў збірацца на працу. Яшчэ б хвілін пяць і зачыніў бы за сабою дзверы. Калі прагучаў тэлефонны званок, ён нават падумаў, ці варта падымаць трубку. Не той настрой, каб зранку з кім-небудзь гаманіць. Павагаўшыся, усё ж зняў. Пачуў незнаёмы, мабыць, ад курэння хрыплы голас:

— Руладзь Апанас?

— Так. А хто пытае? — насцярожанасць прыхлынула да сэрца. Частыя гудкі былі яму адказам. Ён паклаў трубку і стаў чакаць. Зноў такі ж працяглы, быццам міжгародні, званок.

— Руладзь Апанас?

— Я. Хто пытае?

Памаўчалі, чуваць, як дыхаюць у трубку. Ён стрымліваў сябе: цікава, што далей.

— Ваш дыпламат з дакументамі ў нас. Мы іх знайшлі, — сказаў той голас.

— Ну і што?

— Вашыя дакументы...

— І што?

— Мы маглі б аддаць іх вам...

— Скуль ведаеце мой тэлефон?

Пашапталіся, кашаль.

— Тут ваш тэлефон на запісной кніжцы.

Ёсць у яго гэткая дурная звычка: пазначаць свае блакноты. Меркаваў, на карысць, атрымліваецца — на шкоду.

— Што вы хочаце?

— Можам аддаць дыпламат...

— Дык аддайце.

— Проста так? — засмяяліся ў трубцы. — Дурных цяпер няма. Дзвесце даляраў. І каб без усякай там міліцыі... Інакш сустрэчы не будзе. Дыпламат выкінем у які-небудзь сметнік...

— Забярыце яго сабе, — ён адмовіўся далей гаварыць, але тэлефон званіў і званіў. Каб не дакументы... Ён уявіў, колькі часу, нерваў і здароўя будзе каштаваць, каб аднавіць іх... Крый Божа! Але дзе ўзяць столькі грошай? Прыкінуў, у каго з сяброў пазычыць. У Анатоля — пяцьдзесят даляраў, у Хведара — сто. Астатнія — у каго-небудзь яшчэ. Абы жонка не ведала. Што рабіць, за ўсё трэба плаціць... Дамовіліся спаткацца як сцямнее, ля ўваходу ў метро на праспекце Скарыны.

Увесь дзень Апанас амаль не працаваў. Галава была занята іншым: збіраў грошы. Калі ён іх верне?.. Чаму ён такі дурны!

Ужо ў прыцемках падышоў да абменнага пункта, які зусім недалёка ад уваходу ў метро. Большая частка грошай у беларускіх рублях, а плаціць — далярамі. Такое патрабаванне хрыпатага.

Ля акна ў абменным пункце было пуста. Толькі перад уваходам трое хлопцаў. Ён абыякава зірнуў на іх, між іншым адзначыўшы, што ўсе ў вязаных спартыўных шапках чорнага колеру.

Падаў грошы, і мужчына за акном пачаў гучна лічыць. Нібы перад ім стаяў глухі дзед, а не малады чалавек. Апанас краем вока заўважыў, што на ўваходзе прыадчыніліся дзверы і мільганула чорная шапка.

— У вас не хапае сто тысяч, — сказаў мяняльшчык, — на суму даляраў, якую хочаце.

Такога не магло быць. Ён неаднойчы пералічыў грошы і пачкамі паклаў у левую кішэню пінжака. Паглядзеў там — пуста. У правай кішэні таксама. У краму ж не заходзіў. Адразу з працы — сюды. Засунуў руку ў кішэню глыбей і расхваляваўся. Збоку была не надта шырокая, але дастатковая, каб праз яе маглі вываліцца грошы, дзірка. Зверху павёў рукою па падкладцы пінжака і ў самым нізе намацаў цвёрдае. Зірнуў на мяняльшчыка, той моўчкі чакаў. Ні хвіліны не вагаючыся, Апанас асцярожна, але моцна, ірвануў падкладку па шву. Дастаў грошы і перадаў у акно. Але за падкладкаю было нешта яшчэ. Ён толькі яго ўзяў у руку і, нават не бачачы, зразумеў, што гэта. І неспадзеўкі выразна ўспомніў, як, разлічваючыся ў бары, паклаў партманет з дакументамі і грашамі не ў дыпламат, па сваёй даўняй звычцы, а ў гэту левую кішэню пінжака. Ад радасці ён гатоў быў зараз скакаць і рагатаць, рагатаць. Пачуцці, якія нахлынулі на яго, мусіць, адбіліся на твары.

— Што з вамі? — спытаўся мяняльшчык.

— Ды нічога, — весела адказаў ён. Забраў даляры і рушыў на праспект. Ужо ля ўваходу ў метро нейкім, яшчэ, відаць, ад продкаў, інстынктам адчуў небяспеку. Не азірнуўся, толькі прыспешыў крок. Ужо ўскокваючы ў вагон, заўважыў: след у след за ім беглі тыя ў чорных шапках. Яны былі ад яго праз некалькі чалавек. Доўга не сталі на адным месцы, пачалі праштурхоўвацца бліжэй. «Што ж, пагуляем, калі так хочаце, — падумаў Апанас. — Бягу, спрабуйце дагнаць... Хоць вы — ваўкі, але я не заяц...»

На наступнай станцыі, ледзь адчыніліся дзверы, выскачыў з вагона. Падыходзіла сустрэчная электрычка, і ён сеў у яе. За ім паспелі толькі два праследавацелі. Ён чуў іхнія галасы, і адзін быў той — хрыпаты. Чаму яны чакалі яго ля абменнага пункта? Мо разлічылі, што яму спатрэбіцца туды ісці? Альбо ашываюцца там увесь час? Успомнілася, як гучна мяняльшчык лічыў грошы. Дый прызначылі сустрэчу менавіта ля гэтага ўваходу ў метро, а не ў іншым месцы?.. Больш не хацелася ні пра што думаць. Вось-вось чарговая станцыя. Але ці паспее ён адарвацца? Надта ж яны блізка.

Ён кінуў вокам па баках. Шчасце ўсё-такі было з ім. Зусім побач перамаўляліся чалавек пяць курсантаў міліцэйскай акадэміі. Рашэнне ўзнікла імгненна.

— Хлопцы, уцякаю ад жонкі. Убачыць — бяда. Я сказаў ёй, што ў камандзіроўцы. Калі буду выходзіць, прыкрыйце, калі ласка, — зрабіўшы загадкавы выгляд, папрасіў гэтых юнакоў. Яны здзіўлена перамігнуліся, але зрабілі тое, што ён сказаў. І ўжо зачыніліся дзверы, як яго праследавацелі, спыненыя на нейкі момант курсантамі, пасля натоўпам людзей на станцыі, падбеглі да электрычкі. Было позна, цягнік з гулам і свістам паляцеў у цёмную пашчу тунеля. Апанас, прыхіліўшыся тварам да акна, рагатаў. Хоць смех гэты быў нервовы і холад сціскаў усё цела. У галаве яшчэ доўга пераможна гучала: «Бягу, спрабуй дагнаць! Ваўкі...»

Позна, амаль уначы, калі ён збіраўся класціся ў ложак, а жонка з дзецьмі спалі, зазваніў тэлефон. Падняў трубку.

— Чаму вы не прыйшлі па дыпламат? — Пачуўся хрыпаты голас. — Ці вам не патрэбны дакументы?

— Забярыце іх сабе, — адказаў ён.

Больш яму не званілі. Толькі яшчэ не адзін раз, ідучы міма абменнага пункта ля ўваходу ў метро, Апанас заўважаў старых знаёмцаў у спартыўных шапках чорнага колеру. Яны чакалі сваю ахвяру...

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ДРОБНА ДРАБНІЦА

СВЕТ ТЫМ І ПРЫГОЖЫ, што разнастайны. Разнастайнасць колераў радуе вока, пераліў мелодый лашчыць слых. І песні таму прывабныя, што кожная з іх па-свойму кранае душу, выклікае розныя, адпаведныя тэксту і мелодыі, пачуцці.

Разнастайнасць — характэрная рыса фальклору. Нават адзін і той жа твор існуе ў шматлікіх варыянтах. І ўсе яны перадаюць адметнасць той прасторы, дзе выконваюцца, адлюстроўваюць адносіны, перажыванні, любоў людзей, іх уменне зберагчы песенныя традыцыі пры новых абставінах.

Песня «Дробна драбніца» бытуе ў розных варыянтах. Нават мае некалькі загалоўкаў. У «Анталогіі беларускай народнай песні», складзенай Генадзем Цітовічам, змешчана пад назвай «Сабралася бедна галота»; сучасная моладзь замяніла ў назве і тэксце слова «галота» на «басота». Можа падацца, што частка першых радкоў «дробна драбніца, дробна драбніца. Дробны дождж ідзе...», дзе звычайна ў фальклорных творах падаецца апісанне абставінаў, сувязь з наваколлем, стала загалоўкам. Аднак учытаемся ў тэкст, звернем увагу на выказванне «ў цябе сотні, а ў нас драбніца». Якраз яно выяўляе сутнасць сацыяльных адносінаў у грамадстве і, мабыць, асноўнага моманту песні, яе стрыжня, вакол якога гулліва разгортваюцца падзеі.

У жартаўлівых, часам задзірыстых інтанацыях песні прасочваюцца даволі складаныя адносіны. Аснова нашага быцця — супольная дзейнасць, здаровы дух. У працы, за бяседаю (пры застоллі) ідзе яднанне людзей, адбываецца гартаванне іхняга духу. Люд сабраўся за чаркаю не дзеля таго, каб выпіць гарэлкі ці віна, як здаецца на першы погляд. Нават у нялёгкі перыяд існавання, калі ў кішэні толькі драбніца, не варта пазбаўляцца здаровага стаўлення да рэчаіснасці. Нам трэба яднацца (часам і за чаркаю), яднацца духам. І паняцце «драбніца» ў тэксце выступае і як узровень матэрыяльнага дастатку, і як усё фізічнае, усе тыя матэрыяльныя ўмовы, дзе працякае наша жыццё. Таму — заклікаецца ў песні з першых слоў — не варта акцэнтаваць увагу на матэрыяльным, усё гэта — дробнае, і яно мінецца, як той дробны дождж. Выраз «дробна драбніца» у такім асвятленні гучыць афарыстычна.

Гэтую песню ведаюць на ўсёй Беларусі. Варыянтнасць асобных радкоў, нават строф, некаторыя адрозненні ў мелодыі сведчаць пра яе папулярнасць. Яна трапіла ў лік любімых вакальных твораў маладой беларускай інтэлігенцыі (мо таму, што ўмовы сучаснага жыцця ў нечым паўтараюцца). Гучыць песня і ў спектаклі «Пеўчыя», пастаўленым паводле п'есы Георгія Марчука на «Вольнай сцэне» ў Мінску. Спяваюць гэтую песню і на Украіне; у асобных рэгіёнах яна блізкая напевам і тэкстам да беларускага арыгіналу, у некаторых — толькі мелодыяй.

«Дробна драбніца» адносіцца да ліку жартоўных песень, якія з задавальненнем выконваюцца на разнастайных застоллях (бяседах), але больш за ўсё сярод блізкіх людзей, дзе можна жартаўліва з'імправізаваць, нават праспяваць па ролях. У якасці бяседнай (застольнай) песні яна гучала на І з'ездзе беларусаў свету ў выкананні фальклорнага гурта «Бяседа».

Песня падаецца ў тым варыянце, які запісаў Рыгор Шырма ў 1950 годзе ў мястэчку Будслаў Мядзельскага раёна ад вядомай дзяячкі Паўліны Мядзёлкі. У гэтым выглядзе яе выконвае гурт «Бяседа».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

### Беларуская народная песня

*Дробна драбніца, дробна драбніца,*
*Дробны дождж ідзе,*
*Ой, сабралася бедна галота*
*Мёд, гарэлку п'е.* 2 р.
*П'ем мы гарэлку, п'ем мы гарэлку,*
*Будзем піць віно;*
*А хто к нам прыйдзе, будзе смяяцца,*
*Будзем біць таго.* 2 р.
*Ой, прыйшоў, прыйшоў дзядзька багаты,*
*Насміхаецца:*
*— А скуль жа гэта бедна галота*
*Напіваецца?*
*— Ой, ты не смейся, дзядзька багаты,*
*Ты не смейся з нас,*
*Вазьмі у рукі чарку гарэлкі,*
*Выпі ты за нас.* 2 р.
*— Рад бы я выпіць, рад бы я з'есці,*
*Рад бы закусіць, —*
*Сто рублёў маю, сто рублёў маю,*
*Недзе размяніць.* 2 р.
*— У цябе сотні, а ў нас драбніца,*
*Дык не смейся з нас,*
*Ідзі ты к чорту, дзядзька багаты,*
*К чорту йдзі ад нас.* 2 р.
*Адзін за рукі, другі за ногі,*
*Трэці ў карак б'е.*
*Ой, не йдзі, не йдзі, дзядзька багаты,*
*Дзе галота п'е.* 2 р.



# ЦСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**З Дэлі перадае кар. ІТАР-ТАСС Юрый КАЗЬМІН.**

КАЗЯРОГУ астролагі раяць узяць пазыку для выканання намечаных планаў. Тым, хто яшчэ не пачаў ажыццяўляць свае задумы, звязаныя з набыццём або продажам аўтамабіля, неабходна кансультацыя ў вопытнага спецыяліста. Тым, хто ўжо гатовы адкрыць сваю справу, не трэба спяшацца. Неабходна ўзважыць усё, а затым ужо прыняць канчатковае рашэнне па гэтым пытанні.

Асабістае жыццё ў ВАДАЛЕЯ паступова стабілізуецца, ззаду застаюцца ўсе нягоды і цяжкасці ўзаемнага неразумення. У той жа час бізнесменам трэба праявіць як мага больш асцярожнасці, вельмі верагодна, што вы можаце быць уцягнуты ў нявыгадную справу. Праявіце ў гэтыя дні больш самастойнасці, не слухайце парад акружаючых.

Даволі паспяхова ідуць справы ў тых, чый знак РЫБЫ. Вы лёгка ўстанаўліваеце кантакты, справы на службе ідуць цудоўна і вашы заслугі адзначаны начальствам. Добрыя адносіны з сябрамі і ў сям'і таксама станоўча адбіваюцца на вашым настроі. Дзелавую актыўнасць у канцы тыдня трэба замяніць актыўным адпачынкам на прыродзе. Некаторым з вас будзе зроблены каштоўны падарунак або вы будзеце ўдастоены прэміі.

У гэтыя дні АВЕНАМ прыйдзецца нямала папрацаваць, каб выканаць даручанае ім на рабоце заданне. Астролагі перакананы, што вы справіцеся з ім выдатна, і гэта яшчэ больш узніме ваш аўтарытэт у вачах сяброў. Той, хто вядзе дзелавыя перагаворы, атрымае каштоўную прапанову. Гэты тыдзень будзе багатым на кантракты і дзелавыя здзелкі. Асабліва добра ідуць справы ў спартсменаў-легкаатлетаў, якія могуць заняць прызавыя месцы.

ЦЯЛЬЦУ астролагі раяць не эксперыментаваць там, дзе ў яго мала вопыту. Служачых чакае перавод на больш адказныя пасады. У жанчын наперадзе нялёгкі тыдзень на службе, таксама складаныя сітуацыі будуць і ў адносінах з членамі сям'і. Пастарайцеся пазбягаць асабліва вострых «вуглоў» у адносінах з блізкімі. Апасайцеся прастудных захворванняў.

У БЛІЗНЯТ узнікаюць цяжкасці ў адносінах з дзелавымі партнёрамі. Пастарайцеся абысціся без усплёскаў эмоцый, яны справе не дапамогуць. У дадзенай сітуацыі пачакайце, затым сітуацыя паступова стане больш спрыяльнай для дзелавой актыўнасці і вы зноў зможаце дасягнуць пастаўленых мэтаў. Маладому чалавеку неабходна старанна ўзважыць свае магчымасці.

Да новага месца службы РАКУ дапаможа адправіцца адзін даўні знаёмы, які аказаў яму паслугі, якія датычаць бізнесу. Асабліва складанымі будуць гэтыя дні ў тых, хто заняты ў гандлі, а таксама ў дыпламатыі. У той жа час вам не варта спадзявацца на парады іншых, пастарайцеся пазбягаць і новых знаёмстваў, гэтыя людзі карыслівыя ў дасягненні сваіх мэтаў.

ІЛЬВЫ зноў будуць кантраляваць абставіны. У гэтыя дні любыя штормы вам не страшныя, вы зноў поўныя сіл і ідэй, якія хочаце неадкладна ажыццявіць — не марудзьце, ваш ход, і вы на правільным шляху. На працягу тыдня пастарайцеся сканцэнтраваць усе сілы на выкананні самай важнай на дадзеным этапе для вас справы. У выхадныя дні рамантычная сустрэча зноў акуне вас у ззяючы зоркамі свет кахання і бурных пачуццяў.

Тыя з ДЗЕЎ, хто парваў адносіны з каханымі, сустрэнуцца зноў. У справах на службе поўны беспарадак, але ёсць магчымасць з дапамогай аднаго памочніка ўсё наладзіць і не выклікаць гнеў начальства. Пажадана знайсці новыя шляхі папаўнення сямейнага бюджэту. У студэнтаў наперадзе здача экзаменаў, але гэта выпрабаванне яны вытрымаюць і змогуць даказаць, што могуць працягваць вучобу.

ШАЛІ нечаканым рашэннем змогуць дабіцца павышэння па службе. Пастарайцеся атрымаць з гэтага як мага больш выгады. Асабліва добра ідуць справы ў тых, хто заняты ў бізнесе. У гэтыя дні вы можаце атрымаць інфармацыю аб вашым новым кампаньёне. Асобам, якія маюць адносіны да тэлебачання, будзе прапанаваны выгадны кантракт. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць здароўю тым, хто не захоўвае неабходную дыету.

Паступова паляпшаецца сітуацыя ў справах на службе ў СКАРПІЁНА і ўжо здаецца магчымым павышэнне па службовай лесвіцы. Не спяшайцеся, яшчэ трэба даказаць, што тут вы зможаце больш актыўна выкарыстоўваць усе свае сілы. Занятым у медыцыне цяпер лепш не практыкаваць, а аказаць дапамогу аднаму чалавеку, якому неабходны вашы парады. Будзьце асцярожнымі на вуліцы.

СТРАЛЬЦУ трэба вырашыць важную дылему — працягваць пачатую справу, або заняцца новай, дзе ў вас ёсць правераныя ў справе партнёры па бізнесу. У дадзенай сітуацыі вам лепш не паддавацца ўплыву іншых, спадзявацца на свае сілы і не слухаць парад. Жанчынам абяцаюць зорнае будучае, калі яны будуць зусім свабоднымі ў сваіх дзеяннях, але не будуць імкнуцца да новых знаёмстваў у бізнесе.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 24 лютага

### Беларускае тэлебачанне

**10.05** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма. **10.30** «Ералаш». Гумарыстычны часопіс. **10.50** Лепшыя хіты MTV. **11.30** «Маё каханне, мой смутак». **12.30** Гурман. Беларуская кухня і кухня народаў свету. **12.50** «Свет прыроды і захапленняў». **13.30** «Сюрпрызы Рупольдзінга». Пасляслоўе да чэмпіяната свету па біятлоне. **13.50** Шматгалоссе. **14.20** Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма. **15.00** Калаж. Праграма для дзелавых людзей. **15.30** «Віншуем Вас!» Музычная перадача да Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. **16.20** Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб. **17.05** Чацвёртае вымярэнне. **17.50** «Зорная ростань». Брэсцка-Магілёўскі тур. Перадача 8-я. **18.30** Галерэя. Народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай. **19.00** «Шклянка вады». Маст. фільм. 1-я серыя. **20.05** Банка коміксаў. **20.40** Калыханка. **21.00** Навіны. **21.45** Пітэр О'Тул у мастацкім фільме «Высокі дух» (ЗША). **23.30** Відзьма-нявідзьма.

### ГРТ

**8.00, 14.00, 17.00, 22.30** Навіны. **8.10** Тэлеканал «Пад'ём!» **9.30** «Не зявай!» **10.00** Ранішняя пошта. **10.35** Смак. **10.55** Фільмы нашай памяці. «Дом, у якім я жыву». **12.40** «Вікторыя» Фестываль салдацкай песні. **13.30** Мультфільмы Рамана Качанава. «Кракадзіл Гена». **14.20** «Аўтамабіль і я». **14.40** У свеце жывёл. **15.20** «Акно ў Еўропу». Вядучы — Д. Кісялёў. **15.50** Бамонд. **16.10** «Шчаслівы выпадак!» **17.00** Навіны. **17.20** «Тэлескоп». **18.00** «Залатая серыя». Год 1971-ы. «Афіцэры». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.45** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло». Серыял. **21.40** «Брэйн рынг». **22.40** «Калекцыя першага канала». Фільм Фрэнсіса Копалы «Ад усяго сэрца».

### Канал «Расія»

**9.30** Вялікі хакей. **10.10** «Як жыць будзем?» **10.55, 22.30** Служба 299-00-00. **11.10** «Усё іншае — літаратура». Усерасійская нарада маладых пісьменнікаў. **11.40** «Давайце жыць па сонечным гадзінніку». Песні У. Мігулі. **12.30** «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». Праграма Я. Еўтушэнкі. **13.20** Дэ факта. **13.35** «Эмілі». Тэлефільм. **14.30** Караоке па-руску. **14.50** Сігнальны экземпляр. **15.00** Пілігрым. **15.45** Кліп-антракт. С. Велікаў. **15.50** Футбол без граніц. **16.35** Імперыя гульняў. «Гладыятары». **17.25** Астралогія кахання. Р. Паулс. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Суботні вечар з Інай Чурыкавай. **21.05** Зусім сакрэтна. **22.45** Рака часу. **22.50** Аўтаімгненне. **22.55** Праграма «А». **23.55—0.40** Адамаў яблык.

### Санкт-Пецярбург

**8.25** Актуальна—надзённа. **9.00** Стыль жыцця. **9.15** Музычны момант. **9.20** «Рэцэпт». Перадача для ўрачоў, фармацэўтаў і пацыентаў. **9.30** Страсці-мардасці. **9.45** «Жак Рывет». Фільм цыкла «Кіно нашага часу». Частка 2-я. **10.45** Дзень нараджэння. **10.50** І ўсё былое... **11.30** Ток-шоу «Наўздагад». Райманд Паулс. **12.00** «Белае брацтва» праз два гады. Перадача 1-я. **12.30** Мультфільмы. **13.30** Тэлеканал «Яшчэ адна Расія». **15.00** Будні і святы Тэатра на Ліцейным. **15.30, 18.30, 20.20, 21.00** Інфарм ТБ. **15.40** Мы і банк. **16.20** Зебра. **17.05** Тэлеканал «Не хочаш — не глядзі». **17.40** Нічога, акрамя... **17.55** Тэле-граф. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўная праграма. **20.25** «Самастойнае расследаванне». Крымінальная гісторыя. **21.20** Ромі Шнайдэр і Ален Дэлон у маст. фільме «Крысціна» (Францыя). **21.55** Музычны рай. **23.25—1.02** «Максі». Маст. фільм (ЗША).



# АФІША ВЫХАДНЫХ

***КАЛІ НАДАКУЧЫЛІ ДОЎГІЯ ВЕЧАРЫ НА КАНАПЕ, ПАДУМАЙЦЕ, ШТО ЛЕПШ ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА. САМЫ ЧАС ІСЦІ Ў ТЭАТР ЦІ НА КАНЦЭРТ.***

Што да канцэртаў, то 25 лютага ў **Доме афіцэраў** адбудзецца смехаперадача на адлегласці. Міхаіл Задорнаў перадасць трохі свайго запалу праз праграму «Так жыць можна».

**Купалаўцы** ў суботу гараць жаданнем сустрэцца з вамі на «Тапалевай завеі». У нядзелю ранкам тут «Пунцовая кветачка», а ўвечары ў тэатры імя Я. Купалы «Умовы дыктуе жанчына». Як любое дзейства, дзе замешана жанчына, гэта таксама будзе трагікамічным. На **Малую сцэну** ў выхадныя прыляціць чэхаўская «Чайка».

Тыя, хто цікавіцца сучаснай беларускай драматургіяй, звычайна прызначаюць сустрэчы на **Вольнай сцэне**. 24 лютага вас запрашаюць на спектакль «Віта Брэвіс, або Нагавіцы святога Георгія», 25-га — фольк-жарт «Паваліўся нехта».

**Рускі тэатр** у суботу пакажа меладраму «П'ерэта». У нядзелю ў тэатры збяруцца прыхільнікі «Свабоднага шлюбу».

Адносіны мужчыны і жанчыны пільна даследуе **Маладзёжны тэатр.** Вы гэта зразумееце 24 лютага на спектаклі «Прыйшоў мужчына да жанчыны». Гэта гісторыя аб адзіноце, каханні, «Бітлз» і жоўтай падводнай лодцы.

Да класікі звяртаецца **Альтэрнатыўны тэатр.** 25 лютага глядзіце «Тэатр Антошы Чэхантэ». А ў суботу тэатр **«Дзе-я?»** запрашае ўсіх на монаспектакль «Атропас».

Тыя, хто хоча не толькі паглядзець, але і пачуць музыку, не абмініце музычныя тэатры. У суботу **оперны тэатр** наведае загадкавая «Кармэн» Бізэ. У нядзелю вечар аднаактовых балетаў: «Цені» Мінкуса, «Балеро» Равэля, «Прывал кавалерыі» Армсгеймера.

Прыхільнікам аперэты паабяцана цудоўная «Ноч у Венецыі» ў суботу. А 25 лютага ў **тэатр музычнай камедыі** запрашае на шоу-праграму Вікторыя Мазур.

24 лютага ў **камернай зале** адбудзецца вечар вакальнай музыкі памяці заслужанага артыста Беларусі Барыса Казанцава.

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

# КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

**Яе даслаў наш актыўны аўтар, брыгадзір калгаса «Нёман» Лідскага раёна Іван Часлававіч ХАБЯН.**

**Па гарызанталях:** 1. Щекотка. 3. Кузнечик. 5. Летучая мышь. 8. Колошение. 11. Назидание. 12. Буква. 15. Слякоть. 16. Властелин. 17. Откос. 19. Холм. 20. Понёва. 22. Громкий смех. 23. Лоскут, обрезок. 24. Известь. 27. Гончая. 28. Оладья из тёртого картофеля. 32. Чувствительность. 33. Икона. 34. Шишка (от удара). 35. Мерёжа, верша.

**Па вертыкалях:** 1. Кисть (украшение). 2. Топот. 3. Арбуз. 4. Цветок. 5. Всадник. 6. Нефть. 7. Счёт. 9. Празднование. 10. Путешествие. 13. Молния. 14. Поместье. 15. Друг, приятель. 18. Цикл (стихов). 21. Ботинок. 25. Каприз. 26. Продолжение. 27. Почва. 29. Холка (у животных). 30. Жасмин. 31. Душегрейка.



## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**КРЫЖАВАНКА (17 лютага). По гарызанталях і вертыкалях:** 1. Настурка. 2. Поўня. 3. Вігвам. 4. Пенснэ. 5. Змова. 6. Агітатар. 7. Назоўнік. 8. Перамога. 9. Ветразь. 10. Стэнд. 11. Квота. 12. Малатарня. 13. Карамболь. 14. Кінатэатр. 15. «Экіпаж». 16. Лядоўня. 17. Збажына. 18. Кірмаш. 19. Сядзіба. 20. Абмалот. 21. Ажыятаж. 22. Джунглі. 23. Парантэз. 24. Снежань. 25. Дырэкцыя. 26. Таполя. 27. Штатыў. 28. Цэнзар. 29. Фінвал. 30. Горад. 31. Дэмагогія. 32. Штука. 33. Юніор. 34. Этыка. 35. Дэмантаж. 36. Калектыў.

## КРЫПТАГРАМА

Зрабіце пераклад на беларускую мову значэнняў ключавых слоў і адпаведна запоўніце клеткі малюнка; у выніку вы прачытаеце вядомую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5-6 — родители; б) 5-7-8-9-10-2 — обида; в) 11-12-13-14 — забор; г) 15-13-16-2 — язык (грам.); д) 11-17-18-14-8 — нежности.



**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
Лагойскі раён, в. Гайна.




## ГАЛАВАЛОМКА

На малюнку зашыфравана слушная прымаўка. Калі вы ўважліва ўгледзеіцеся ў малюнак, то адшукаеце адпаведны ключык, які дапаможа вам расшыфраваць гэтую прымаўку.

**Даслаў Уладзімір АБАБУРКА.**
Клецкі раён, в. Морач.

## ВАКОЛ 15...

Аматарам разгадваць галаваломкі павінна быць добра вядомым традыцыйнае заданне размясціць у квадраце з дзевяці клетак дзевяць розных лічбаў такім чынам, каб па ўсіх гарызантальных радках, па ўсіх вертыкальных слупках і па абедзвюх дыяганалях атрымлівалася сума 15.

Але існуе і супрацьлеглае заданне. Паспрабуйце лічбы ад 1 да 9 размясціць такім чынам, каб сумы па ўсіх гарызанталях, вертыкалях і дыяганалях былі розныя.

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| | | |
| | | |

**Даслаў Радыён ШПЕЦ.**
Шаркаўшчынскі раён, в. Гуркі.




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналіцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 978.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12